PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1863) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 26 СТУДЗЕНЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*Родныя краявіды. Над Супраслю.* Фота Я.Целушэцкага.

# ЕДНАСЦЬ – НАША ЖЫЦЦЁВАЯ НЕАБХОДНАСЦЬ



(Размова з інж. **Яўгенам Чыквіным**, паслом Сейма ад **Выбарчага камітэта праваслаўных)**

**„Ніва":** Вы ўжо трэці раз запар з'яўляецеся паслом польскага Парламента. Як бачыцца Вам гэты новы, дэмакратычна выбраны Сейм у параўнанні з папярэднімі?

**Пасол Яўген Чыквін:** Хаця партыі правага накірунку атрымалі адносна невялікую падтрымку выбаршчыкаў, але гэта яны ўтварылі Урад. У бліжэйшыя дзесяцігоддзі гэта, пэўна, будзе нязменнай тэндэнцыяй. Цяперашні Сейм стане, мабыць, арэнай вострай палітычнай барацьбы, ды паміж групоўкамі, якія яшчэ сёння згодна супрацоўнічаюць. Вынікае гэта з вельмі цяжкага стану гаспадаркі і перспектывы новых выбараў, якія, па-мойму, адбудуцца не раней, як праз 2-3 гады. А ў іх кожная партыя, не выступіўшая ў рашучай апазіцыі, будзе баяцца страты папулярнасці ў выбаршчыкаў. На жаль, гэта адмоўна адаб'ецца на канкрэтнай працы Сейма.

Ужо цяпер відаць, што многія паслы глядзяць на Сейм як на выгадную трыбуну для выступленняў з прамовамі, быццам падчас выбараў, квацістымі і часта дэмагагічнымі. Тым часам дзеля ўстанаўлення добрага права — а гэта ж галоўнае заданне Сейма — патрабуецца значна большае ўмельства.

Урады правага накірунку не абавязкова мусяць прадвызначаць для нацыянальных і рэлігійных меншасцяў пагоршанне іх становішча. Хаця такая небяспека існуе, асабліва ва ўмовах каталіцкай гегемоніі, якую цяпер назіраем. Бліжэйшыя месяцы, асабліва палітыка новага Урада ў вырашэнні неадкладных патрэбаў — а такімі ў нас, беларусаў, лічу заканчэнне пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, будову Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, захаванне хаця б на дагэтуляшнім узроўні беларускіх выданняў, рэфармаванне школьніцтва — усё гэта многае высветліць.

**„Ніва":** Што лічыце вашым найважнейшым заданнем у Сейме? Якія справы хочаце там аформіць, чаго дабіцца?

**Я. Чыквін:** Я ўжо ўспомніў, што найважнейшае заданне Сейма — гэта састаўленне права. Папярэдні Сейм прыняў Закон **„Аб адносінах Дзяржавы да Польскай аўтакефалічнай праваслаўнай Царквы"**. Гэты Закон завяршыў доўгія гады захадаў і старанняў некалькіх пакаленняў праваслаўных у Польшчы аб прававым ўнармаванні іх статуса. Мы, магчыма, у недастатковай ступені ўсведамляем значэнне гэтага акта. Гэта ж упершыню ад заканчэння Першай сусветнай вайны

**( Працяг на стар. 6 )**

## ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ КЛУБ У ВАРШАВЕ

Сярод польскай інтэлектуальнай эліты ўзрастае зацікаўленасць усходнімі суседзямі Рэчыпаспалітай. Зараз у Польшчы існуе звыш дзесятка ўсякіх таварыстваў, мэтаю якіх наладжванне супрацоўніцтва з Усходам. 10 студзеня 1992 года ўзнікла ў Варшаве яшчэ адна арганізацыя такога тыпу – Польска-беларускі клуб.

25 лістапада 1991 года, па ініцыятыве сенатара Тадэвуша Клапатоўскага, адбылася ў Варшаве арганізацыйная сустрэча, у часе якой удзельнікі вырашылі стварыць Польска–беларускі клуб. 3 снежня сябры–заснавальнікі клуба звярнуліся ў Ваяводскі суд у Варшаве дзеля юрыдычнай яго рэгістрацыі. Пасля некаторых паправак суд зацвердзіў статут клуба. Дзеля поўнай юрыдычнай асабовасці трэба было яшчэ выбраць улады клуба. З гэтай думкай пачынальнікі склікалі на 10 студзеня г.г. выбарчы сход зацікаўленых працай у клубе асоб. На сход з'явілася каля дваццаці чалавек, сярод якіх былі гісторыкі, філолагі, перакладчыкі літаратуры, працаўнікі навукі, бізнесмены, палітыкі, працаўнікі міністэрстваў. Усе яны задэклараваліся сябрамі Польска-беларускага клуба, у сувязі з чым выбарчы сход першаю сваёй пастановай пераўтварыўся ў з'езд сяброў клуба.

Мэтаю Польска-беларускага клуба, паводле статута, з'яўляецца папулярызацыя ведаў пра гісторыю і жыццё беларускага і польскага народаў, фармаванне ў абедзвюх краінах грамадскай думкі ў духу ўзаемнай зацікаўленасці і польска-беларускага збліжэння ды дзейнасць у карысць пашаны і абароны правоў нацыянальных меншасцяў у абедзвюх краінах. Клуб імкнецца ажыццявіць гэтыя мэты праз арганізацыю польска-беларускага дыялогу, сустрэч, дакладаў, канферэнцыяў і сімпозіумаў, арганізацыю выставак, паказаў і артыстычных выступаў, узначальванне ўсялякага супрацоўніцтва між навуковымі, мастацкімі, палітычнымі і рэлігійнымі асяроддзямі Польшчы і Беларусі, падтрымку гаспадарчаму супрацоўніцтву абедзвюх краін, дзеянні ў карысць павелічэння і аблягчэння руху людзей паміж краінамі, дапамогу школьніцтву і выданням — беларускім у Польшчы і польскім у Беларусі.

У часе дыскусіі сябры клуба выказваліся пра практычныя метады ажыццяўлення пастаўленых мэтаў. Чэслаў Сэнюх зарэкамендаваў

**( Працяг на стар. 4 )**

## НА МЯЖЫ

### НЯВЫКАРЫСТАНЫЯ ШАНЦЫ

**Частка II**

Хочацца спытаць: чаму мы, жывучы сярод такіх нацыяналістычных народаў, як рускія, украінцы, палякі, літоўцы, характарызуемся нацыянальнай бесхрыбетнасцю? Чаму ж мы не маем у сабе хаця б драбніцы тых здаровых нацыяналізмаў, якія носяць у сваіх сэрцах усе нашы суседзі? Чаму ж мы не развіваем у сабе такога нацыяналізму, які не абазначае нянавісці да суседзяў, а абазначае перад усім — любоў і пашану да самога сябе? Чаму мы дайшлі да крайняй ступені нацыянальнай дэгенерацыі, якая праяўляецца ў захапленні чужым, у пагардзе да роднага? Чаму мы не хочам пасылаць дзяцей у беларускія школы? Чаму не цягнемся да беларускай кнігі і беларускай газеты? Чаму нават да Бога звяртаемся не на той мове, якую ён нам даў, а толькі на мове суседзяў? На жаль, гэтых „чаму?" вельмі многа. Агортваюць яны ўсе сферы нашага жыцця.

Думаю, што адна з галоўных прычын нашага нацыянальнага ўпадку заключаецца ў тым, што беларус не мае беларускай праваслаўнай царквы і беларускага касцёла.

На самым пачатку ўвядзення хрысціянства на Русі, у якую ўваходзілі і беларускія землі, мітрапалітамі маглі быць толькі грэкі. Аднак, рускія князі, кіруючыся інтарэсамі сваёй дзяржавы, хутка зразумелі, што чужынец мітрапаліт, які валодае рускімі душамі і розумамі, вельмі лёгка можа гэта выкарыстоўваць для інтарэсаў чужых дзяржаў. Згэтуль вынікае імкненне да

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

таго, каб мітрапалітамі на Русі былі мясцовыя рускія людзі. Так яно і сталася ўжо ў ранні сярэднявеччы. У сан мітрапаліта ўзводзіліся рускія. У гэтым факце праявілася кананне думкі аб рускай непаўнацэннасці і нараджэнне думкі аб рускай суверэннасці. Быў гэта трыумф рускай дзяржаўнасці і рускага гонару.

... Прайшло з тых часоў болей-меней восемсот гадоў, і Беларусь асталася на пазіцыях ранняй Кіеўскай Русі, з першых дзесяцігоддзяў яе існавання, калі мітрапалітамі мусілі быць чужынцы. Сёння, як вядома, у Беларусі выступаюць дзве вядучыя рэлігіі — праваслаўе і каталіцызм. І хто з'уляецца мітрапалітам праваслаўных? Рускі. А хто з'яўляецца біскупам католікаў? Паляк. Я некалькі разоў бачыў мітрапаліта Беларусі ў часе розных урачыстасцей, на жаль, ні разу не бачыў каталіцкага біскупа. Я тут не намерваюся выклікаць у чытачоў варожых пачуццяў у адносінах да мітрапаліта ці біскупа. Зусім магчыма, што гэта вельмі мілыя людзі. Хачу толькі сцвердзіць, што яны, не будучы беларусамі, не будуць паслядоўна дбаць пра нацыянальныя інтарэсы беларускай дзяржавы. Зусім магчымае штосьці адваротнае: што будуць праяўляць клопат пра рускія і польскія інтарэсы на Беларусі. Не пярэчу, што на Беларусі жывуць і рускія, і палякі, і што святары—рускія і святары—палякі павінны дбаць пра іх матэрыяльныя і духоўныя патрэбы. Аднак, баюся, што галоўныя царкоўныя і касцельныя пасады ў рускіх і польскіх руках давядуць да ўшчуплення беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Так ці інакш, не веру, што мітрапаліт—рускі і біскуп-паляк выхаваюць кагорты святароў, якія так, як гэта ёсць у Польшчы і ў Расіі, будуць змагарамі за нацыянальныя інтарэсы краіны, за беларускую мову і за патрыятычную беларускую свядомасць вернікаў.

Так ці інакш, пара, каб кіраўнікі беларускай дзяржавы зразумелі тое, што рускія князі зразумелі ўжо ў дванаццатым стагоддзі.

Трэба, аднак, памятаць, што рэлігійная матэрыя ёсць матэрыяй вельмі далікатнай і ўсякае грубае ўмяшацельства ў яе можа давесці да супрацьлеглых вынікаў. І таму неабходная далікатнасць. Пры гэтым яшчэ раз паўтараю, павінны быць захаваны інтарэсы нацыянальных меншасцяў, якія ў ніякім выпадку не павінны быць беларусіфікаваны.

А што зробяць суседзі? Напэўна, на пачатку здзівяцца, а можа і абурацца. але пасля зразумеюць і пагодзяцца, бо і яны ж, мабыць, не хочуць, каб у іх краінах мітрапалітамі і біскупамі былі беларусы, і яны ж на гэтыя пасады ставяць сыноў сваіх народаў. Дык мы ўчынім так, як ужо даўно ўчыняюць яны.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*******************************************************************************************

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Міністр замежных спраў Кшыштоф Скубішэўскі** падпісаў у Вільні польска-літоўскую дэкларацыю аб прыязных адносінах і добрым суседстве, а таксама консульскую канвенцыю.

**У Расіі** і іншых рэспубліках Садружнасці Незалежных Дзяржаў існуе зараз тры курсы долара: турыстычны — 110 рублёў за долар, камерцыйны — 55 і афіцыйны — 0,57. Для замежных інвестытараў плануецца ўвесці яшчэ іншы курс — 8-10 рублёў за долар.

**Новую пошліну** абавязаны зараз плаціць тыя, хто перасякае граніцу СНД ў Брэсце. Пасажыры цягнікоў плоцяць па 100 рублёў. За праезд легкавой машыны трэба заплаціць 600, мікробуса — 1500, а аўтобуса — 6000 рублёў. Атрыманыя такім чынам даходы папоўняць гарадскую касу Брэста.

**Польскае радыё Варшава** (V праграма для замежжа), стала трансляваць перадачы на беларускай мове. Паўгадзінныя радыёперадачы можна слухаць штодзень а гадз. 5.30 на сярэдняй хвалі 200 м і на кароткіх хвалях у дыяпазонах 41 і 49 м (частотнасці: 7285, 6095 і 1503 КГц), а таксама а 19 гадзіне на кароткіх хвалях у дыяпазонах 31, 41, і 49 м (9540, 7145, 6095 КГц).

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава**, згодна закону аб адносінах дзяржавы да Праваслаўнай царквы, пачаў старанні вярнуць Царкве маёмасці, якія былі раней забраны дзяржавай. У гэтай справе адбылося ўжо 15 сустрэч з уладамі горада Беластока. Апошняе спатканне, якое адбылося 10 студзеня, зайшло ў тупік. Віцэ-прэзідэнт горада **Эва Бончак-Кухарчык** не прыхілілася да прапаноў архіепіскапа Савы. У такой сітуацыі уладыка Сава накіраваў ва Управу Рады Міністраў ліст, у якім патрабуецца вярнуць Царкве ўсё, што было ў мінулым у яе адабрана.

**Беласток** далучыўся да 12 польскіх гарадоў, якія належаць да еўрапейскага Фонду здаровых гарадоў. Мэта Фонду — так арганізаваць умовы жыцця, працы і адпачынку, каб здароўе жыхароў не знаходзіліся пад пагрозай. Зараз рыхтуецца рэгістрацыя фонду „Беласток — здаровы горад".

**У Гродне** ад 25 да 27 студзеня будзе адкрыта выстаўка беластоцкіх фірмаў. Арганізатарамі яе з'яўляюцца Прамыслова-гандлёвая палата ў Беластоку і Беластоцкая гаспадарчая палата.

**Рада Гандлёва-прамысловай палаты ў Беластоку** рашыла пачаць працу над стварэннем Польска-беларускай прамыслова-гандлёвай палаты.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### СЛУЖУ НАРОДУ БЕЛАРУСІ

Беларускі парламент перападпарадкаваў ураду рэспублікі Узброеныя Сілы, што знаходзяцца на нашай тэрыторыі. Цяпер на Беларусі няма чужога войска. Стратэгічныя ядзерныя базы, якіх у рэспубліцы каля дваццаці, засталіся пад агульным камандаваннем краін-удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

У хуткім часе беларускія вайскоўцы пад бел-чырвона-белым сцягам прымуць прысягу на вернасць свайму народу. Дарэчы, тэкст прысягі складзены па-беларуску. Больш таго, як адзначыў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Станіслаў Шушкевіч, магчыма, у зусім недалёкай будучыні ў нашым войску ўсе распараджэнні, каманды будуць гучаць толькі на беларускай мове.

### О ТО ПАНОЎ! О, БОЖА МІЛЫ!

Вярхоўны Савет Беларусі спрабаваў рэарганізаваць пракамуністычны урад рэспублікі. Аднак, перабудаваць застарэлую мармуровую структуру Саўміна аказалася няпроста.

Пасля доўгіх дэбатаў народныя выбраннікі ліквідавалі толькі чатыры міністэрствы — воднай гаспадаркі і аднаўлення зямель, лёгкай прамысловасці, будаўніцтва і мантажных і спецыяльных будаўнічых работ.

Зрэшты, нягледзячы на гэтае скарачэнне, на Беларусі чыноўніцкая раць засталася даволі магутнай. Зараз у рэспубліцы налічваецца 31 міністэрства.

### ПОДЫХ НАВАЛЬНІЦЫ

На Беларусі расце незадаволенасць рабочых рэзкім павышэннем цэнаў.

На думку кіраўнікоў Менскага гарадскога страйкама, зусім верагодна, што ўжо ў наступным месяцы пралетарыят Беларусі распачне ўсерэспубліканскую забастоўку.

### КАМІТЭТ БАЦЬКОЎСКАГА ГОРА

Нішто так не аб'ядноўвае людзей, як агульнае гора.

На Беларусі створана новая грамадская арганізацыя „Дзеці ў бядзе". Яе заснавалі бацькі дзяцей, якія пакутуюць ад лейкеміі — спадчыннай хваробы Чарнобыля. Мэта новай арганізацыі — стварэнне шпіталяў для анкалагічна хворых дзяцей, абсталяванне гэтых устаноў сучаснымі медыцынскімі прыладамі.

Акрамя таго, таварыства мяркуе наладзіць аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей у чыстых раёнах Беларусі.

Дарэчы, менавіта ў гэтым годзе медыкі прадказваюць пік дзіцячых захворванняў чарнобыльскай хваробай.

### МЫ БАГАТЫЯ, А ІНШЫЯ — РАДЫЯ

Традыцыйна Беларусь лічыцца беднай на мінеральныя карысныя выкапні краінай.

Але ці так гэта на самой справе. Мяркуйце самі. Вучонымі Беларускай Акадэміі навук падлічана, што запасы жалезнай руды толькі на буйных радовішчах Беларусі складаюць звыш 1,5 мільярдаў тон, калійных солей каля 20 мільярдаў тон, сланцаў — 11 мільярдаў тон, вугалю — каля 3 мільярдаў тон, фасфарытаў–звыш 900 мільёнаў тон.

Здабыча нафты ў рэспубліцы трывала трымаецца на ўзроўні 2 мільёнаў тон у год.

Аднак, о дзіва. Да гэтага часу галоўнымі карыснымі выкапнямі суверэннай Беларусі распараджаюцца ведамствы былога Савецкага Саюза.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Да стагоддзя з дня нараджэння Бранiслава Тарашкевіча.
* Чарнобыльскія дзеці ў Беластоку.
* Вершы М. Лукшы, У. Гайдука, А. Сцепанюка, В. Стахвюка, З. Сачко і Ваву.
* Сон Сідара Макацёра.
* Разведчыкі-здраднікі ( працяг ).



*Нашым верным чытачам і ўстановам, якія даслалі „Ніве" святочныя і навагоднія пажаданні, выказваем шчырую падзяку.*

**РЭДАКЦЫЯ**

ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ

# РАКА ЎСПАМІНАЎ

Беларуская літаратура ў Польшчы папоўнілася новай паэтычнай кнігай — зборнікам вершаў Юркі Баены „Лісты блакітных успамінаў". Варта адразу, аднак, адзначыць, што кніжыца гэта — тыпова дэбютанцкая і адлюстроўвае перш за ўсё змаганне аўтара з супраціўнай яму літаратурнай матэрыяй, з паэтычным словам, якое не заўсёды і ўсюды паддаецца яго паэтычнаму ўяўленню.

У зборнік уключыў аўтар некалькі дзесяткаў твораў, разнастайных па зместу і форме, але ў большасці — на жаль — выразна недапрацаваных у мастацкім плане. Напрыклад, „Малітва да Белавежы", „Сланечнік", „Паведамленне аб прапаўшым", „Паказальнік дарог", „Хвіліна", „Баабаб" гэта тэксты годныя ўвагі; яны сведчаць аб паэтычных мажлівасцях паэта, яго фантазіі і творчых задумах, аб яго схільнасці да прадуманай, глыбокай рэфлексіі над няпэўным чалавечым лёсам у нашым трывожным стагоддзі. Але побач з імі ёсць у кнізе і такія запісы, якія, як мне здаецца, не належаць яшчэ да паэзіі. Ужо сам загадны лад, у загалоўках тэкстаў і ў іх глыбіні („шануйце ландыш", „гляньце" і г.д.) ірытуе чытача, таму што ўсялякія забароны і загады па сваёй сутнасці не сумяшчальны з лірыкай, выклікаюць у чалавека незадаволенасць, не гаворачы ўжо пра тое, што такі твор асацыіруецца — як-ніяк — з вершаванай формай агіткі ці проста публіцыстыкі.

Непакоіць таксама форма некаторых твораў, асабліва тых, якія з волі аўтара мелі быць санетамі. Вылучнікам гэтай іпостасі лірычнага твора з'яўляецца не толькі чатырнаццаць радкоў, адвольна згрупаваных у двух чатырохрадкоўях і двух трохрадкоўях. Як вядома, сутнасць санета — у яго адмысловым кампазіцыйным падзеле на дзве часткі: васьмірадкоўе і шасцірадкоўе (два катрэны і дзве тэрцыны), у якія ўпісаны звычайна аўтаномныя тэмы. Абедзве часткі абавязвае таксама прынцып своеасаблівай сіметрыі строф як у плане сінтаксічна-




інтанацыйным, так і метрычным. Тэма санета развіваецца ад апавядальна-апісальнага падыходу ў катрэнах да лірычна-філасофскай рэфлексіі ў тэрцынах, у якіх найчасцей засакрэчаны аўтарам вышэй стаячы сэнс твора.

Трэба шкадаваць, што тых патрабаванняў паэтычнага кодэксу не спаўняюць „санеты" аўтара „Лістоў блакітных успамінаў". Кідаюцца ў вочы таксама паўторы тых самых думак ці нават фармулёвак, якія сведчаць аб паспешлівасці ці, можа, аб няспеласці паэтычнага варштату.

Зборнік складзены з трох частак-раздзелаў, паміж якімі — як здаецца — няма глыбейшай унутранай сувязі: „На світанні дня", „У імгле прадвесня", „Такая рака". Але выразна заўважаецца асаблівая градацыя — кожны раздзел лепшы за папярэдні; калі б вершы былі ўпарадкаваны ў кніжцы храналагічна, то для аўтара была б гэта добрая прыкмета. Аднак жа мы не знаем часу напісання паасобных твораў. Як бы не зважаючы на той штучны падзел на часткі, зборнік захоўвае выразны кампазіцыйны клямар: пачынаецца цікавым зваротам да Зямлі, „апякункі мільёнаў дзяцей сваіх", і канчаецца многааспектным вершам „Баабаб" з яго універсальнай думкаю пра чалавечае існаванне ў Сусвеце.

Найлепшыя творы змешчаны, без сумнення, у трэцяй частцы зборніка „Тая рака". І хоць загаловак не дужа арыгінальны (напр. „Tamta rzeka, tamta dolina"), то ўсё-такі добра перадае асноўную думку, характэрную для ўсіх тут тэкстаў. Загаловачная рака становіцца сімвалам, бо яна — як прыгожа піша Юрка Баена — „злучае ночы з днямі". „Мы, як на мяжы, жывем між вопытам мінулага і верай у будучыню", — спавядаецца аўтар. Менавіта рака з'яўляецца знакам, які арганізуе, стварае галоўную ідэю зборніка. Воды ракі маюць уласцівасць ачышчаць чалавека не толькі з душэўных асадкаў, але таксама з учыненых у мінулым грахоў і правінаў у адносінах як да сябе самога, так і блізкіх людзей ды ўсёй супольнасці. Вельмі драматычна — у тым іменна кантэксце — гучыць пранізлівы верш аб пошуках тоеснасці і сваіх карэнняў „Паведамленне аб прапаўшым". Рака ў паэзіі Юркі Баены — сімвал канструктыўны, які запальвае „Зару надзеі", але таксама — сімвал няўмольнага цячэння часу, прамінання, злучэння з пачуццём страты, забыцця. Рака выконвае ў Баены яшчэ функцыю „святой ракі", дзякуючы якой магчымым стаецца духоўнае адраджэнне, якое адчувае лірычны герой вершаў аўтара „Лістоў блакітных успамінаў".

Лепшыя паэтычныя тэксты Юркі Баены зачароўваюць і таму, што яны інспіраваны натурай, прысутнасцю ў іх прыроды, якая ўдачна фармуе пазітыўныя чалавечыя адчуванні і пачуцці. Маем у тых вершах зрастанне з падбелавежскім пейзажам, адным са святых месц дзяцінства, праз прызму якога лірычны герой аглядае іншыя краявіды айчыны, захоўваючы ўсё тую ж магчымасць „штодзённага вяртання" да месца свайго нараджэння, да апушчанай матчынай хаты. І тое менавіта вяртанне да месцаў „блізкіх сэрцу", уратаванне тоеснасці даюць адчуванне душэўнай сілы. Адсюль, відавочна, „блакітныя ўспаміны". Блакіт сведчыць аб унутранай гармоніі, душэўнай лагодзе і згодзе на сваю ў жыцці, такім, якім яно ёсць, прысутнасць.

Паэтычны зборнік Юркі Баены „Лісты блакітных успамінаў" — нягледзячы на вышэй прыведзеныя крытычныя заўвагі — трэба лічыць за добры для аўтара пачатак. Прадстаўленыя ў ім цікавыя вершы з'яўляюцца доказам, што прадаўжаць паэту працу на літаратурнай ніве варта. Аднак, усім вядома, што аднаго таленту замала — успамагаць яго трэба настойлівай працаю і сістэматычным практыкаваннем. Спадар Аляксандр Лашук, спонсар з Лондана, дзякуючы дапамозе якога гэта кніжка выйшла з друку, можа быць асабіста задаволеным: у гэтай дэбютанцкай кнізе ёсць праўдзівыя паэтычныя жарынкі. Вось чаму аўтару зычу, каб трапнасць маіх спасцярог ён пацвердзіў сваёй наступнай кнігай.

І на заканчэнне адна дробязь. Раздражнае адсутнасць якой-колечы метрыкі зборніка. Захапляе прыгожая, густоўна запраектаваная вокладка. Шкада, што ананімная — перыяд вялікага калектывізму ўжо ж належыць хіба да мінулага часу.

---------

*Юрка Баена, Лісты блакітных успамінаў, стар. 46, Бельск-Падляшскі 1991.*

***



# ВЯРТАННЕ ДА КРЫНІЦАЎ

Юрка Баена пачаў пісаць вершы ў 1972 годзе, у ліцэі. Друкаваўся ў „Ніве", „Беларускіх календарах", альманахах „Белавежа". Але ўласнай кніжкі паэзіі прычакаў толькі напрыканцы мінулага года.

У міжчасе закончыў Люблінскі універсітэт і стаў працаваць настаўнікам геаграфіі ў Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Неяк гэтыя тры важныя этапы жыцця сталі падставай для храналагічнага ўпарадкавання вершаў у зборніку „Лісты блакітных успамінаў". Першы раздзел — „На світанні дня" — гэта творчасць з часоў ліцэя. „У імгле прадвесня" акуталіся студэнцкія гады. Вершы апошняга часу ўвайшлі ў раздзел „Тая рака".

„Лісты блакітных успамінаў" — рэтраспекцыя амаль 20-гадовага творчага шляху Юркі Баены. У зборніку шлях гэты быццам зашпілены клямарам з двух вершаў: „Зямля ты мая" і „Баабаб". Ліцэіст, уваходзячы ў жыццё, дакранаючыся толькі да паэзіі, дэкларaваў:

Зямля ты мая —
яблыня пеўчая і залатая,
карміліца,
апякунка мая
і мільёнаў дзяцей сваіх.

Падымаюся
па прыступках лесвіцы,
каб дасягнуць плада —
тваіго жыватворнага яблыка...

У сталым узросце зусім ужо іншая дэкларацыя ў паэта — яна вынік пэўнага асэнсавання свету і вызначэння свае ролі ў ім. Але ў хлапечым узросце пачынае толькі назнаваць зямлю, вывучаць яе, спазнаваць ейныя плады. Жыццёвы досвед накіроўвае ўсё мацней увагу аўтара да роднага. Калі ў ліцэйскія гады родныя матывы, пэўныя вобразы — „вішнёвы сад", „ніва і луг", „самотная таполя" — гэта для Юркі Баены толькі пачатак выхаду ў шырэйшы свет, пачатак абстрактных разважанняў, дык у пасталеўшага мужчыны вынікам якраз роздумаў з'яўляецца роднае. Быццам бы замыкаўся круг: выходзіш з вясковай хаты, з „вішнёвага саду", каб, пасля блуканняў па свеце, акунуцца ў „тую раку з усіх найдаражэйшую, якая бяжыць ля хат, крыніцы першай".

„Падымаешся па прыступках лесвіцы", і калі ў цябе штораз больш „жыватворных яблык" спазнання, бачыш, што лесвіца прывяла цябе да першакрыніцы. Толькі што па дарозе да гэтага разумення не раз збіваешся са шляху.

У раздзеле „У імгле прадвесня" якраз найбольш такіх адыходжанняў, чужых, не-Баенаўскіх матываў. Не заўсёды даецца аўтару строгая форма санета. Адчуваецца недахоп рэдактарскай працы (аўтар — ён жа сам і рэдактар).

Але ўжо завяршэнне зборніка — засцяжка клямара — „Баабаб", можа стаць завяршэннем пэўнага працэсу ў творчасці Юркі Баены (пацвярджае гэта падборка вершаў на першай за гэты год літаратурнай старонцы „Белавежа") — працэсу пошукаў, сталення. „Баабаб":

А калі ўжо будзе трэба
баабабам я астануся
зберагу глыбока пад карою
тысячагоддзяў памяць
захаваю сэрца і карэнні
і дажджавой парою
сваім пальчастым лістам
вітаць я буду адраджэнне.

**М.В.**

**Юрка Баена шчыра дзякуе спадару Алесю Лашуку з Лондана за дапамогу ў выданні свае першае кніжкі.**

## ГОРАД, АЛЕ МІЛЬЁННЫ!

У „Ніве" ад 12 студзеня змешчана мае апавяданнейка „Выезд у смутак", у якім дапушчана важная памылка. Менавіта, пачатковая фраза ў ім павінна мець наступнае гучанне: *„У ноч з суботы на нядзелю даязджалі мы да першага на ўсход ад Польшчы мільённага горада"*. Прапушчана слова *„мільённага"*, без якога мастацкі намёк робіцца няясным.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ЗЫЧЫЦЬ = ЖАДАЦЬ

Абурыўся Ю. Пракаповіч з Беластока, што ў святочных пажаданнях у 51 нумары прымянілі мы слова **зычыць**, якое лічыць ён небеларускім і засцянковым.

Памыляецеся, шаноўны чытач! **Зычыць і жадаць** гэта сінонімы. Калі не давяраеце нам, дык гляньце ў „Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", т. 2, с. 520 (Мінск 1978).

## ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ КЛУБ У ВАРШАВЕ

( Працяг са стар. 1 )

прысутным 8/9 нумар „Літаратуры на свеце” за 1991 год, які выйшаў друкам напярэдадні сустрэчы сяброў клуба, а які амаль у палове прысвечаны беларускай літаратуры. Сенатар Клапатоўскі звярнуў увагу, што ў планах клуба прадугледжваецца выдаванне бюлетэня, які мае інфармаваць пра падзеі ў Беларусі. Марыя Цехацінская звярнулася з пытаннем, ці не варта было супрацоўнічаць з іншымі арганізацыямі, якія займаюцца падобнай праблематыкай. Думку гэту працягваў Тамаш Шчапанскі. Я налічыў, гаварыў ён, трынаццаць таварыстваў, якія займаюцца ўсходняй тэматыкай, у сувязі з чым існуе небяспека дублявання дзеянняў. У перспектыве спатрэбіцца сустрэча з кіраўніцтвамі гэтых таварыстваў — дзеля каардынацыі. Ідэю падтрымаў Чэслаў Сэнюх, які звярнуў увагу, што акрамя таварыстваў, што ўзніклі ў апошні час, існуюць і іншыя, як хаця б Польскае беларусазнаўчае таварыства.

Удзельнікі дыскусіі звярталі ўвагу на цяжкасці ў кантактах з Беларуссю, на безнадзейную сітуацыю на польска-беларускай мяжы. Кшыштоф Яблонка (кіраўнік дэпартамента па пытаннях Беларусі і Расеі ў Міністэрстве замежных спраў) сказаў, што нельга ў гэтай сітуацыі абвінавачваць беларусаў, бо яны фактычна не кантралююць сваёй мяжы — яна ўсё пад кантролем Масквы. У перспектыве трэба спадзявацца, што і Польшча пачне заціскаць свае ўсходнія пераходныя пункты. У ходзе дыскусіі з’явілася таксама пытанне, ці Польска-беларускі клуб мае выказаць свае адносіны да тых прэтэнзіяў, якія высоўваў беларускі ўрад у часе місіі міністра Скубішэўскага. Адказаў на гэта зноў жа К. Яблонка: няма такой патрэбы, паколькі пасля падпісання двухбаковай дэкларацыі няма ніякіх прэтэнзіяў. Рэпліка: але ж яны былі, гэта факт. Быў гэта ўсяго дыпламатычны крок непадрыхтаванага ў той час да падпісання дэкларацыі беларускага кіраўніцтва, адказаў К. Яблонка.

Сябры Польска-беларускага клуба выказалі яшчэ неабходнасць сустрэч з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі ў Польшчы, якія пазнаёмілі б іх з меншаснай праблематыкай ды з дзейнасцю беларускіх устаноў у Польшчы, бо ўстановы гэтыя — памост паміж Польшчай і Беларуссю.

Пасля дыскусіі адбыліся выбары ўладаў клуба — старшыні, Управы і Рэвізійнай камісіі. Старшынёю Польска-беларускага клуба стаў галоўны яго ініцыятар сенатар Тадэуш Клапатоўскі.

Адрас клуба: Klub Polsko-Białoruski, Towarzystwo Wolnej Wszechnicy Polskiej, ul. Górnośląska 20, Warszawa.

**Аляксандр Максімюк**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Беласток. Святадухаўская царква на Антонюку.*

**Мал. Ежы Лянгевіча.**

# Радыёконкурс падсумаваны

У лістападзе мінулага года ў радыёперадачы на беларускай мове „Для школы і для дому” быў аб’яўлены конкурс для вучняў старэйшых класаў падставовых школ і ліцэяў („Ніва”, н-р 47 за 1991 год). І вось 9 студзеня ў гэтай жа перадачы конкурс быў падсумаваны і былі аб’яўлены вынікі.

Думаю, што чытачам „Нівы” будзе цікава даведацца, як прайшоў конкурс, тым больш, што не ўсе маюць магчымасць слухаць нашыя радыёперадачы. Нават адзін з удзельнікаў конкурсу ў сваіх адказах напісаў, што аб конкурсе ён даведаўся з „Нівы”, бо раніцай у час нашых перадач у іх класе якраз адбываецца ўрок біялогіі.

Аказалася, што пастаўленыя пытанні і заданні конкурсу ніякіх цяжкасцяў удзельнікам не стварылі. (Пытанні ў той жа „Ніве”, н-р 47). Усе адказы былі правільныя, прычым надзвычай змястоўныя. У іх было значна больш інфармацый, чым патрабавалася ў заданнях конкурсу. Напрыклад, у першым пытанні трэба было назваць аўтара верша. Дык усе ўдзельнікі беспамылкова назвалі імя цудоўнага беларускага лірыка і патрыёта Максіма Багдановіча. Але з адказаў вучняў можна было даведацца аб жыцці паэта, яго творчасці і нават калі і ў якіх выданнях верш быў надрукаваны ўпершыню і які быў яго пазнейшы лёс.

Цікава было патрактавана другое пытанне. Трэба было растлумачыць значэнне прыказкі „Каб з ручая напіцца, трэба нахіліцца”. Большасць удзельнікаў добра зразумела сэнс гэтай народнай мудрасці: нічога ў жыцці не даецца нам без цяжкасцяў, без працы. Напрыклад, васьмікласніца Івона Нічыпарук з Храбустоўкі піша: *„Каб стаць разумным чалавекам, трэба шмат укласці працы. У маім выпадку - гэта вучоба.”* І прыводзіць падобную па сэнсу польскую прыказку „Без працы няма калачаў”. А Івона Леанюк з бельскага беларускага ліцэя піша: *„Кожны шукае такога ручая, каб з яго можна было напіцца без нахілянн я. Але, як мне здаецца, нікому такое не ўдасца. Той ручай у нашым жыцці - гэта штосьці далёкае, нашыя мары, а ў выпадку вучняў - гэта паглыбленне ведаў, салідная праца. І такім чынам у будучыні зможам напіцца з чароўнага ручая, бо ж ён сапраўды існуе, трэба толькі знайсці да яго дарогу.”*

А Марыёля Паскробка з Рыбакоў, вучаніца 6 класа школы ў Нарве, у сваім адказе на гэтае пытанне піша: *„Каб мець добрую ваду ў гэтым ручаі, трэба дбаць аб чысціні нашай ваколіцы”*. І далей яшчэ яе адна думка: *„Ручай гэты можна прыраўняць да нашай роднай беларускай мовы. І трэба дбаць, каб нашыя дзеці як найчасцей да яго нахіляліся, каб яны так, як і мы, умелі гаварыць па-беларуску, каб ведалі нашых паэтаў, пісьменнікаў і песні”*.

У трэцім пытанні вучні выказаліся вельмі эмацыянальна аб сваёй школе, аб настаўніках, аб беларускай мове. Вось кароценькая вытрымка з працы Івоны Леанюк - вучаніцы другога класа Бельскага беларускага ліцэя: *„Найбольш мне падабаецца ў нашай школе мілая атмасфера. У нас кожны чуецца як у сябе, паміж сваімі. Ніхто тут нас не змушае вывучаць беларускую мову. Кожны з нас, хто сюды ішоў вучыцца, ведаў, які гэта ліцэй. Няма ў нас вучняў, якія маюць большыя клопаты з беларускай мовай. Нават тыя, хто сустрэўся з гэтай мовай тут першы раз, добра вучацца. У першы год вучобы яны ўдзельнічаюць у дадатковых занятках беларускага гуртка”*. І далей: *„Для большасці з нас урокі беларускай мовы з’яўляюцца адпачынкам у параўнанні з іншымі прадметамі”*.

*„Я вельмі люблю сваю родную мову,-* піша Анэта Гаўрылюк з Сакоў,*- гэта мова, на якой гаварылі мае продкі, а цяпер гавораць мае бацькі. Цяпер я з’яўляюся вучаніцай другога класа Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Гэта школа маіх мараў, таму я цяпер вельмі шчаслівая, што магу вучыцца ў такой светлай школе.”* Вельмі сардэчна піша Анэта аб сваіх сябрах, з любоўю адгукаецца аб сваёй настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Зінаідзе Дзямянюк, якая *„ўсім сэрцам і з вялікай радасцю дзеліцца з намі сваімі ведамі”*.

Менш энтузіястычна піша пра сваю вучобу ў бельскім ліцэі вучань першага класа Раман Карчэўскі. *„Я вельмі цешуся, што далей вучуся беларускай мове, аднак, па-мойму, гэта не такая навука, якая павінна быць. Тут, таксама як і ў „тройцы”, практычна няма падручнікаў. Добра, што ёсць „Ніва”, з якой можна паглыбіць свае веды. Аднак, дзякуючы нашаму настаўніку А.Сцепанюку, вучоба для мяне - гэта не толькі абавязак, але і прыемнасць. Думаю, што калі-небудзь сітуацыя ў нашай дзяржаве папраўціца і наступнае пакаленне будзе мець усё патрэбнае для здабывання ведаў, як прыстала на вучняў XX стагоддзя.”*

Тры лісты на конкурс прыйшлі з Падставовай школы ў Нарве. Сёлета ў гэтай школе пачала працаваць вельмі энергічная настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк, якая да апошняга навучальнага года працавала ў школе ў Ласінцы. А там, як вядома, пад яе кіраўніцтвам вельмі актыўна дзейнічаў гурток беларускай мовы ды яшчэ ў дзвюх секцыях - паэтычнай і тэатральнай. Цяпер гэтая адданая сваёй прафесіі настаўніца працуе ў школе ў Нарве. Дык вось як пішуць удзельнікі радыёконкурсу аб сваёй школе. *„З кожным месяцам павялічваецца колькасць вучняў, якія прыходзяць на ўрокі беларускай мовы,* - піша Івона Нічыпарук, вучаніца восьмага класа.*- У гэтым годзе ў нас адбываецца многа розных мерапрыемстваў. Наладжвае іх наша настаўніца Ніна Абрамюк. Арганізавала яна 4 верасня вогнішча, на якім былі розныя гульні, песні. Мы пяклі над агнём яблыкі, каўбаскі і хлеб. Усе стараліся гаварыць па-беларуску. Усім гэта вельмі спадабалася. Потым наладзілі сустрэчу з рэдактарам Янкам Максімюком. Праз некалькі тыдняў мы паехалі на выстаўку мастачкі Тамары Тарасевіч у Беларускі музей у Гайнаўку. 5 снежня мы пабывалі ў рэдакцыі „Нівы” ў Беластоку. Рэдактар Міра Лукша паказвала нам, як працуюць камп’ютэры, на якіх якраз рабілася карэкта „Нівы”. У нас таксама адбыўся дэкламатарскі конкурс, а цяпер мы рыхтуемся да агляду школьных тэатраў і беларускай песні.”*

Вучаніца 6 класа гэтай жа школы Марыёля Паскробка піша так: *„У нашай школе мы вывучаем беларускую, англійскую і рускую мовы. Найбольш вучняў вучыцца англійскай і рускай мове, а беларускай - толькі некаторыя. Я найлепш люблю ўрокі беларускай мовы. З нашага класа на заняткі беларускай мовы ходзіць толькі 8 вучняў. На пачатку я таксама не любіла гэтага ўрока. Калі я лепш пазнала новую настаўніцу, ахвотна хаджу на яе ўрокі. У нашай школе ёсць таксама гурток беларускай мовы. Я хацела хадзіць туды, але я даязджаю да школы, бо жыву ў Рыбаках, а заняткі адбываюцца пасля сёмага ўрока. Ахвотна ходзяць на ўрокі беларускай мовы дзеці з другіх і трэціх класаў. З тых класаў найбольш дзяцей вывучае родную мову. На гуртку яны рыхтуюцца да дэкламатарскага конкурсу, развучваюць песні, а да тэатральнага конкурсу рыхтуюць п’есу „Чароўная лялька”.*

**А вось вынікі нашага радыёконкурсу:**

Першую ўзнагароду і 150 тысяч злотых атрымала Івона Леанюк з Руткі, гміна Дубічы-Царкоўныя, вучаніца II класа беларускага ліцэя ў Бельску.

Другую ўзнагароду і 120 тысяч злотых атрымала Анэта Гаўрылюк з Сакоў, гміна Кляшчэлі, вучаніца II класа беларускага ліцэя ў Бельску.

Дзве трэція ўзнагароды і па 100 тысяч злотых атрымалі Івона Нічыпарук з Храбустоўкі, гміна Нарва, вучаніца 8 класа школы ў Нарве, і Раман Карчэўскі - вучань I класа беларускага ліцэя ў Бельску.

Дадаткова ўзнагароджаны Марыёля Паскробка з Рыбакоў, гміна Нарва, вучаніца 6 класа школы ў Нарве, і вучань 5 класа гэтай жа школы Крыштоф Абрамюк. Яны атрымалі па 50 тысяч злотых.

Фундатарам усіх узнагарод з’яўляецца беларуска з Бельгіі Зоя Смаршчок.

Падобныя конкурсы будзем наладжваць і ў будучыні. Маем надзею, што знойдуцца для іх і новыя спонсары. Запрашаем усіх чытачоў „Нівы” і слухачоў беларускіх радыёперадач прымаць у іх актыўны ўдзел.

**Яніна Чэрнякевіч**

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**06-05-1988 г.**

Закончыў „Чорную Лёлю" (пачаў 3-га лютага). І куды я толькі не вазіўся з гэтым чарнавіком! Ад Судэтаў па Крынкі.

**21-05-1988 г.**

Тры дні назад вярнуўся з Югаславіі. Першы раз там быў. Уражанне немалое, асабліва ад Славеніі (пішу ў „Ніву"). І не падумалася, што славенцы жывуць па-еўрапейску!

Удзельнікаваў у пэн-клубаўскай Міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў у Бледзе, цудным курорце ў Юлійскіх Альпах; дваццаць першай (10-15 мая). Тэматыка: нацыянальныя меншасці і малыя народы Еўропы і свету. Не пашанцавала мне на спадарожнікаў. Пётр Кунцэвіч — п'яніца і маральная руіна; Зыгмунт Тжышка — халерык і жыццёвы блытанец; Караль Стрыйскі — жыдоўскі палахлівік. Кунцэвіч, — эндэцкая с....., — забараніў мне паказваць сябе як беларуса ды публічна выступіць у час Сустрэчы. Упаўнаважаны кім? Тжышка злаяў яго за гэта.

У Саюз пісьменнікаў Славеніі перадаў я трохі кніжак і непадцэнзуршчыны. Тое ж нейкаму літоўцу са ЗША. (Landsbergis?).

Усё ж за столькі дзён паспеў я з сім-тым пагаварыць. Нават славенцы, хоць і самі малыя, амаль не ведаюць пра існаванне беларусаў.

Назаўтра пасля вяртання, — чацвер, 9.00 — вельмі добрая аўтарская сустрэча ў беластоцкім трэцім ліцэі (вучыўся ў ім Яраслаў). Публіка жывая, інтэлігентная, кантактуе з паўслова; маса пытанняў. Шмат беларуса-падобенцаў, адважных; прасілі гаварыць па-беларуску.

У пятніцу „Gazeta Współczesna" змясціла артыкул Пацэвіч пра Беластоцкую літаратурную вясну, у час якой меў месца салідны беларускі акцэнт (дзякуючы Ясю Чыквіну).

Гутарка мая з сацыёлагам Садоўскім, даследчыкам беларускай з'явы.

На універсітэцкай сесіі (сёння): „Człowiek na pograniczu kultur" (ініцыяцыя п. Фэліксяк). Адвёў я сабе душу!

Але даволі ўжо гэтых імпрэзаў. Я ж перастаў працаваць. Усё — або кудысьці еду, або іду... Стварыўся балаган у маім жыцці.

„Kontrasty" нарэшце змясцілі „Wszystko inne jest cwaniactwem". Мой маральны маналог.

Быў — заўчора — нейкі маладзён (Казанэцкі?) з В-вы са сваім амерыканскім аднагодкам, які цікавіцца нац. меншасцямі. Энтузіяст „Białorusi, B." і сацыяліст (даў „Międzymorze" за г.г. і бюлетэні). І я ... сёе-тое. Казаў г. варшавяк: беларускія студэнты з клуба „Памосце" вывесілі ў бастуючым універсітэце — Białorusini są z wami. Выклікала гэта фурор!

„Polityka", стар. 12: „Listy do redakcji". Вострая пастаноўка Багданам Цясноўскім пытанняў двухмоўя ў Беластоцкім краі і парламенцкага прадстаўніцтва беларускай меншасці. І яшчэ нехта дадае да гэтага сваё, апісваючы... бяздзейнасць нібы-жыдоўскага пасла ў цяперашнім Сойме. Карыкатура меншаснага прадстаўніцтва!

**29-05-1988 г.**

Зайшоў Туронак, а ўвечары — А. Мірановіч, які нядаўна быў у Мінску (па рэлігійнай лініі). Сенсацыйныя звесткі: тамашнія беларусы кіпяць! У параўнанні з імі нашы тут непадцэнзурныя выданні пачынаюць рабіцца амаль нуднымі! Трапіў Антось на пісьменніцкі пленум, на якім наслухаўся прост неверагоднага: эмансіпацыя ад Масквы, маскалі расстралялі сумленне Беларусі (Дамашэвіч, Карпюк); ганьба, каб у беларускай дзяржаве гаварыць пра раўнапраўе для ... беларускай мовы; прадстаўнічыя органы БССР — нейкія акупанцкія; служкі Масквы; Беларусь нацыянальна дэваставаная як аніводная іншая рэспубліка СССР; ну, уся рыторыка, як быццам з „Беларуса"...!!!

Прарвалася набалелае пакаленнямі.

Старшыняваў пленуму Васіль Быкаў.

Шмат-каму публіка не дала закончыць выступленне (м.ін. Навуменку). Гнаць рэнегатаў! „Прэзідэнт" Таразевіч перапрашаўся, што не дае рады пабеларуску (рогат публікі). ЦКоўцы напалохаліся, давай шантажыць эпітэтам „анархія". І што не адразу адбудаваць знішчаную беларускую нацыю, не за дзень-два...

Кажуць, БАСу дабіліся легалізацыі ў рамках Варшаўскага універсітэта... На хвалі апошніх падзей у краіне, дыягназ якіх: зашумеў народ, бо не даюць яму разгарнуцца, здушваюць ініцыятыву.

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— „Памосце" — польскае таварыства для папулярызацыі культуры і палітыкі суседніх народаў, арганізаванае салідарніцкім падполлем;*

*— нібы-жыдоўскага пасла — маецца на ўвазе асобу Шымана Шурмея, дырэктара Жыдоўскага тэатра ў Варшаве;*

*— Дамашэвіч, Карпюк, — Уладзімір, Аляксей, вядомыя беларускія пісьменнікі;*

*— па рэлігійнай лініі — Антось Мірановіч займаецца гісторыяй праваслаўя на Беласточчыне;*

*— „Прэзідэнт" Таразевіч — Г.С. Таразевіч, тадышні Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР;*

*— „Беларуса" — газета „Беларус", найбольш вядомае выданне эміграцыі ў Амерыцы;*

*— ЦКоўцы — скарочаная назва цэнтральных работнікаў кампартыі.*

P.S. — Былыя дзеячы падпольнага Беларускага незалежнага выдавецтва папраўляюць мяне: арганізавалася яно не ў 1980 годзе, як мне здавалася, але дакладна ў лютым 1981 года. Дзякую за ліст!




## Святыя віленскія мучанікі Антон, Іаан і Яўстафі

Святыя віленскія мучанікі Антон, Іаан і Яўстафі ў язычастве называліся Няжыла, Кумець і Круглець. Усе яны былі баярамі літоўскага князя Альгерда Гедымінавіча. Святое Хрышчэнне віленскія мучанікі прынялі ад святара Нестара. Антон і Іаан былі братамі. Прыняўшы хрысціянства, пакінулі яны язычаства. Бачачы гэта, князь загадаў пасадзіць братоў у турму. Іаан у турме патраціў веру і вярнуўся ў язычаства. Малодшы брат Антон не выракся Госпада Бога і адкрыта навучаў яго запаведзям. Князь зноў загадаў зняволіць святога Антона. Пачуўшы аб гэтым, Іаан вярнуўся ў хрысціянства і заявіў князю Альгерду, што ён выракаецца язычаства. Разгневаны ўладар паслаў Іаана і Антона на смерць. Даведаўшыся аб пастанове князя, святар Нестар наведаў у турме братоў-мучанікаў, выспавядаў іх і прычасціў Святымі Дарамі. 14 студзеня 1347 года святы Антон быў павешаны на дубе, дзе звычайна вешалі злачынцаў. Перад смерцю ён прадбачыў смерць свайго брата Іаана. Іаан таксама быў павешаны 24 студзеня 1347 года.

Хрысціяне з пашанай пахавалі іх целы. Варожасць язычаскіх літоўскіх князёў да хрысціян давяла да смерці вучня святых Антона і Іаана — Яўстафія. Святы Яўстафі за адкрытае прапаведванне веры Хрыстовай быў біты, трыманы на марозе, мучаны. Віленскаму мучаніку былі прабіты косці ў нагах, а пасля гэтага 13 снежня 1347 года быў павешан на тым самым дубе. Ад смерці святога Яўстафія больш на гэтым дубе не вешалі злачынцаў. Для хрысціян ён стаў святым месцам. Пасля афіцыйнага прыняцця Літвою хрысціянства на месцы, дзе стаяў успомнены дуб, была пабудавана царква Святой Тройцы, а пазней манастыр. Там былі пахаваны мошчы святых віленскіх мучанікаў. У 1826 годзе мошчы гэтыя былі перанесены ў Святадухаўскі манастыр і складзены ў пячоры ў адкрытай рацы. Праваслаўная царква кананізавала святых мучанікаў Антона, Іаана і Яўстафія ўжо ў 1364 годзе. Днём іх памяці быў устаноўлены дзень 14 красавіка.



**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**



### „ЖАВАРАНАЧКІ" НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У палове студзеня г.г. на Беласточчыне пабываў дзіцячы фальклорны калектыў „Жаваранaчкі" з Менска. Калектыў гэты працуе пры цэнтры эстэтычнага выхавання моладзі, які курыруе Міністэрства асветы. Паездку для калектыву арганізавала Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына". Аб гастролях расказвае старшыня ЗБС **Яўген Лецка**:

— На Беласточчыну мы збіраліся прыехаць раней, у снежні, але ўдалося гэта нам толькі ў студзені. Пабывалі мы тут на свой кошт і выступалі з канцэртамі ў Бельску і Гайнаўцы. З нашым прыездам былі і арганізацыйныя клопаты (з Беластока не паведамілі ў Гайнаўку, што мы прыязджаем) і першую ноч давялося нам начаваць у спартыўнай зале на матах. У Гайнаўцы далі мы канцэрт у Беларускім ліцэі і гасцінна выступілі на аглядзе калядных калектываў у Гайнаўскім доме культуры. У школе і ў доме культуры прымалі нас вельмі сардэчна і юным артыстам было прыемна, што гледачы высока ацанілі іх майстэрства. Наведалі мы таксама Беларускі музей у Гайнаўцы. У Бельску выступалі мы ў мясцовым Доме культуры для моладзі з беларускага ліцэя і, мяркуючы па апладысментах, таксама спадабаліся гледачам. Думаю, што такая паездка карысная для нашай моладзі і ў Беларусі і на Беласточчыне.

(л)

# ЦІ БУДЗЕ НОВЫ ЛІЦЭЙ У ГАЙНАЎЦЫ?

Шмат што змянілася ў Гайнаўскім беларускім ліцэі апошнім часам.

— Працуе ў нас многа маладых настаўнікаў, — кажа дырэктар Васіль Дамброўскі, — узбагаціліся мы таксама тэхнічным абсталяваннем. Мяне як настаўніка нямецкай мовы асабліва цешаць дзве справы: тое, што працуе ў нас настаўніца англійскай мовы з Менска, пані Алена Таболіч, якая вельмі многа сэрца ўкладае ў працу і цікавіцца ўсімі справамі школы (яе ўражанні з Гайнаўкі чытайце побач), ды тое, што маем лабараторыю на 30 кабінаў для навучання замежных моваў.

Ліцэй працуе ў драўляным будынку, пабудаваным яшчэ ў 1932 годзе. Кантроль Дзяржаўнай інспекцыі працы загадаў правесці ацэнку яго тэхнічнага стану „з увагі на шматлікія трэшчыны скляпення і цвіль". Куратορыя на гэта грошай не дала. Дырэктар за тое, што не рабіў ацэнкі, атрымаў штраф, але адмовіўся яго плаціць і паабяцаў пасլаць гэты штраф у падарунак куратару. Штраф знялі, а грошы на правядзенне ацэнкі тэхнічнага стану будынку дала Гайнаўская гарадская рада.

— Ліцэй цяпер практычна ўтрымліваецца з узносаў бацькоў, — кажа дырэктар Дамброўскі, — ў гэтым годзе яны немалыя. Часамі дапамагаюць нам некаторыя прадпрыемствы, напрыклад, малачарня дала 2 мільёны злотых. Дапамагае таксама Гарадская рада — дала службовую кватэру спадарыні Таболіч. Самі зарабляем на курсах замежных моваў ды робячы ксераграфічныя паслугі; апаратуру купілі мы за грошы, падараваныя нам членамі танцавальнага калектыву „Васілёк" з Нью-Йорка.

Зараз у ліцэі дзесяць аддзелаў і 275 вучняў. Ужо звыш дзесяці год школа не можа прыняць усіх жадаючых у ёй вучыцца — у суседнім ліцэі, польскім, больш-менш 60 % вучняў гэта беларусы.

У мінулым годзе ў трох сярэдніх школах Гайнаўкі не хапіла месца для 100 выпускнікоў тамашніх пачатковых школ. Моладзь вымушана была падавацца за навукай у іншыя гарады. Праз 3-4 гады лік абсальвентаў пачатковых школ у Гайнаўцы падвоіцца. Дырэктар Васіль Дамброўскі лічыць, што без новай інвестыцыі не будзе ніякай магчымасці размясціць іх у існуючых сярэдніх школах горада.

Ад снежня мінулага года гатовы ўжо праект новага беларускага ліцэя і гімнастычнай залы (старая ў такім самым стане, як і школьны будынак). Праект, за 350 мільёнаў злотых, выканала Прадпрыемства абслугі інвестыцый з Беластока. Грошы дало Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Новая школа запланаваная на 16 аддзелаў, гэта значыць дзесяць на 500 вучняў. Яе пабудова, на сёння, каштавала б 22 мільярды злотых (прыблізна два мільёны долараў). Зараз на рахунку Грамадскага камітэта пабудовы ліцэя 95 мільёнаў злотых, міністэрства абяцала 106 мільёнаў як аўтаматычную даплату да грамадскіх грошай. Гэта разам 1 % коштаў пабудовы. Гарадская рада абавязалася дапамагаць 50-цю мільёнамі ў год. Можна таксама разлічваць на працу і транспарт бацькоў. Але ўсяго гэтага замала, каб рушыць з пабудовай.



*Гайнаўскі ліцэй.*

Дырэктар Дамброўскі хоча сесці з нейкім спецыялістам і падлічыць, што можна зрабіць за 250 мільёнаў злотых. І гэта напэўна будзе зроблена. Але пра пачатак сур'ёзных прац можна будзе думаць, калі банкавы рахунак Грамадскага камітэта пабудовы ліцэя ўзрасце недзе да мільярда, лічыць дырэктар.

Нягледзячы на беднасць Міністэрства адукацыі — сёння ў яго грошай усяго на трохмесячныя зарплаты для настаўнікаў, — найбольшыя спадзяванні ўскладваюцца на яго. Не без значэння тут і тое, што міністрам адукацыі стаў ранейшы сенатар ад Беластоцкага ваяводства Анджэй Стэльмахоўскі, які добра ведае мясцовыя праблемы, у тым ліку і беларускія.

Паводле планаў, новая школа стане на месцы сённяшняга саду (шкада яго, але што зробіш), а гімнастычная зала там, дзе цяперашні ліцэй. Абы толькі грошы, дык пабудову, пачаўшы ў маі-чэрвені гэтага года, можна закончыць цераз два гады. Усё іншае ёсць: і выканаўцаў многа, і будаўляных матэрыялаў таксама. Тэмп пабудовы залежыць толькі ад грошай. А кошт пабудовы — ад тэмпу працаў: чым даўжэй школа будзе будавацца, тым даражэй каштаваць будзе пабудова.

— Запрасілі мы прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і тамашнія ўлады, — кажа Васіль Дамброўскі, — каб маглі яны пазнаёміцца са станам беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Запросім таксама прадстаўнікоў Міністэрства адукацыі Польшчы, можа супольна вырашаць, якой быць беларускай асвеце на Беласточчыне, дык прынясуць канкрэтную дапамогу нашаму ліцэю.

**Дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Васіль Дамброўскі ад імя вучняў**



*Праект будынку новага ліцэя ў Гайнаўцы.*

# ЕДНАСЦЬ–

## НАША ЖЫЦЦЁВАЯ НЕАБХОДНАСЦЬ

( Працяг са стар. 1 )

праваслаўныя атрымалі такія ж правы, якімі карыстаюцца ў нашай дзяржаве каталікі. Праца над гэтым Законам працягвалася доўга і была вельмі цяжкою. Прыпомню толькі, што аж тройчы змянялі паслоў, якія прадстаўлялі праект Закона на агульным пасяджэнні Сейма, і адбыліся аж тры агульныя пасяджэнні — такое ў нашым Сейме здараецца вельмі рэдка. Для мяне гэта былі часы напружанай працы, аграмаднай канцэнтрацыі і стрэсаў. Амаль цэлы год я жыў з пачуццём асабістай адказнасці, што ад майго ўчынку ці слова можа залежаць лёс многіх людзей. Магчыма, што гэта ў мяне гістарычная звышчуллівасць. Але ж толькі таму, што не было праваых урэгуляванняў, сталася магчымым разбурэнне праваслаўных цэркваў у 1938 годзе! Асабліва цяжкой была праца ў Сенаце, дзе я выступаў у падвойнай ролі: пасла і — па блаславенні Яго Блажэнства мітрапаліта Васілія — афіцыяльнага прадстаўніка нашае Царквы. Гавару пра гэта таму, што з-за незразумелых мне прычын рэдакцыя „Нівы" адмовілася апублікаваць ужо гатовы да друку матэрыял на гэтую тэму. А Закон жа датычыць вельмі важнай сферы жыцця беларусаў у Польшчы, яны ж у значнай большасці пра-васлаўныя!

У цяперашняй кадэнцыі Сейма лічу найважнейшай працу над падрыхтоўкай і прыняццём закона аб нацыянальных меншасцях. Ён ажыццяўляў бы канстытуцыйныя нормы роўнасці грамадзян незалежна ад іх нацыянальнасці. Маю намер прымаць удзел таксама ў працах над новай канстытуцыяй, асабліва над запісамі, якія будуць датычыць правоў нацыянальных меншасцяў, хоць у гэтай справе не чакаю асаблівых цяжкасцяў. Лічу сваім абавязкам ўспамагаць і іншыя веравызнанні, між іншым, пратэстантаў у іх стараннях пра атрыманне прававога статуса. Так як і дагэтуль, настолькі, наколькі змагу, буду клапаціцца пра справы культуры, школьніцтва — перш за ўсё беларускае, але і іншых меншасцяў. Ад часу, калі я ўвайшоў у Сейм, заўсёды стараюся звяртаць увагу Сейма, Урада і каго толькі можна на неабходнасць дапамагаць людзям, якія жывуць на так званай „усходняй сцяне". Несумненна, цяжка будзе змяніць адносіны Цэнтра ў гэтай справе, аднак я лічу, што мы павінны пра гэта гаварыць, напамінаць, прасіць і патрабаваць, таму што гэтыя землі — гэта наша „малая бацькаўшчына", а яе нацыянальны і гаспадарчы занепад дайшоў да такога стану, што самі мы яе не падымем.

**„Ніва"**: У працах якіх сеймавых камісій Вы прымаеце ўдзел?

**Я. Чыквін:** Мяне выбралі ў камісію па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў, у ёй я намеснікам старшыні, належу і да камісіі па замежных справах. У гэтую другую я сам увайшоў, бо маю намер давесці да ўтварэння сталага калектыву прадстаўнікоў парламентаў Поль-шчы і Беларусі. Гэты міжпарла-менцкі калектыў займацца б рознымі аспектамі польска-беларускага супрацоўніцтва і ў першую чаргу — гаспадарчага, культурнага, а таксама справамі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і польскай — у Беларусі. Адроджаная, незалежная Рэспубліка Беларусь робіць шмат дзеля захавання культурных традыцый палякаў, якія жывуць на Беларусі, між іншым, аплочвае настаўнікаў, якія навучаюць польскіх дзяцей роднай мове, утрымоўвае музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку, Элізы Ажэшка ў Гародні, плануе адкрыццё музеяў Тадэвуша Касцюшкі і Міхала Агінскага і іншыя мерапрыемствы. Вядома, ёсць шмат цяжкасцяў і праблемаў, і супрацоў-ніцтва парламентаў абедзвюх краінаў будзе спрыяць іх вырашэнню.

**„Ніва"**: У сеймавай зале Вы сядзіце справа. Ці гэта абазначае, што будзеце супрацоўнічаць з правымі палі-тычнымі сіламі?

**Я. Чыквін:** Месцы ў Сейме вызначае яго Маршалак. У маім выпадку гэта не мае нічога супольнага з маімі палітычнымі поглядамі. Проста, у самым „правым" сектары сядзяць паслы — „адзіночкі" і з малых груповак. Маім прынцыпам было і застаецца супрацоўніцтва з усімі, хто хоча заўважыць праблемы меншасцяў і ўдзельнічаць у іх вырашэнні. Наша, беларусаў у Польшчы, сітуацыя будзе залежаць ад тых палітычных сілаў, якія фактычна ўздзейнічаюць на палітыку дзяржавы, значыць, таксама — ад партыяў правага накірунку. І ўжо хаця б таму супрацоўніцтва з гэтымі групоўкамі будзе патрэбна. Вядома, усё гэта ў залежнасці ад іхніх адносінаў да нас. Як дагэтуль, дык ніводная з гэтых партый, апрача агульных слоў, у справах для нас істотных нічога канкрэтнага не заявіла.

**„Ніва"**: Ці супрацоўнічаеце Вы ў Сейме з пасламі нямецкай нацыя-нальнасці? Пытаю таму, што ў выбарчай кампаніі Вы моцна крытыкавалі саюз Беларускага выбарчага камітэта з Выбарчым камітэтам нямецкай меншасці.

**Я. Чыквін:** У Вашым пытанні выказана, заўважаю, свядомая, памылковая інтэрпрэтацыя. Я не толькі што не „моцна", але цалкам не крытыкаваў таго, што Беларускі выбарчы камітэт аб'яднаўся з



*Урок нямецкай мовы.*

**і настаўнікаў школы выказвае шчырую падзяку беларусам Злучаных Штатаў Амерыкі за падтрымку ліцэя, а асабліва членам калектыву „Васілёк” за фінансавую дапамогу.**

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**Кожны жадаючы дапамагчы ў пабудове беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, можа ўплочваць грошы (у любой валюце) на рахунак Грамадскага камітэта пабудовы ліцэя. Вось поўная назва камітэта, банка і нумар рахунку:**

**Społeczny Komitet Budowy Liceum Ogólnokształcącego z BJN w Hajnówce**
**Bank Spółdzielczy w Hajnówce**
**№ 95217-2251-132-6.**



*Ядвіга і Васіль Дамброўскія на ўроку.*

# ГАЙНАЎСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

Чацверты месяц ідзе, як я ў Гайнаўцы. Раней выкладала англійскую фанетыку ў Мінскім ін'язе. Дырэктар запрасіў папрацаваць крыху ў ліцэі.

Гайнаўка вельмі прыгожая, асабліва ў залатыя дні восені. Людзі мілавідныя, спакойныя і ветлівыя. Мова ў іх мешаная: як беларуская — то крыху з акцэнтам, а як польская — то ўперамешку з беларускімі словамі.

Ліцэй маленькі і старэнькі (я займаюся ў невялічкім класе на другім паверсе, з двума малюткімі вокнамі і з нізкім дахам над галавой, адным словам, у „галубятні”), але ўтульны і чысцюткі. Ї нейкая свая аўра. Усе ведаюць адзін аднаго, заўсёды з усмешкай і з гумарам, добра дбаюць пра сваю школку. Нават пра выкладчыцу, якая хоча навучыць іх размаўляць па-ангельску. Адрамантавалі разам з бацькамі мне кватэру (зрабілі як цацку), пытаюцца, ці не холадна. Зусім не адчуваю сябе, што на чужбіне. Як быццам на Зэльвеншчыне, дзе вырасла (120 км адсюль, каб праз лес, ды не было мяжы; зямлячка Ларысы Геніюш).

Прыгожая царква, і хор таксама; асабліва цікава слухаць дзяцей і моладзь.

Наведваю музей. Памаленьку будуецца, хацелася б, каб хутчэй. Добра было б зрабіць і (хоць маленькую) кніжачку пра Гайнаўку на беларускай мове, ды перакласці на другія мовы. Бо не купляць жа беларусам-наведвальнікам кніжку пра Гайнаўку ў беларускім музеі на польскай мове? Ці такая ёсць? А я б дапамагла зрабіць. Але хто яшчэ возьмецца? Можа хто з вас?

Да мовы вучні здольныя (як усе беларусы — гэта я магу сказаць як лінгвіст і выкладчык). Праўда,не заўсёды хочацца „зубрыць” новыя словы. Лепей паспяваць па-англійску ці пагуляць у лінгвістычныя гульні. Бо так, кажуць, лепей вывучаюцца словы. Ёсць, вядома, і ляніўцы, і спісаць „класоўку” часам хочацца. Але як няма часу? Усякае ж бывае — „Се ля ві”, як кажуць французы.

Але родная мова магла б гучаць часцей. Па-беларуску размова толькі са мною ды з беларускімі настаўнікамі. Нічога дзіўнага. Малавата дбаем пра тое, каб моладзь далучыць да родных традыцый. За гэты час у Гайнаўцы быў адзін толькі канцэрт, і той на мове танца. На пасяджэнні таварыства беларускай мовы моладзі амаль не было. Ці не запрасілі? Ці не зацікавілі?

Ой, браточкі-беларусы, трэба ж пачынаць з моладзі. Бо ці пачуем беларускае слова так праз гадоў дзесяць?

А дзе моладзі вучыцца гэтаму слову? Ліцэй не можа прыняць усіх. Хто дапаможа дырэктару В. Дамброўскаму, які ўжо з ног збіўся і начамі не спіць, каб нешта прыдбаць для пабудовы новага ліцэя? Цэлы дзень у школе, нават у суботу, а зарплата ў дырэктара (хто гэта прыдумаў у Польшчы?) меншая чым была, калі ён быў проста настаўнікам. Ї чаму настаўнікі павінны ездзіць за свае (і так малыя грошы) у камандзіроўкі, і на канферэнцыі? Хвала ім і за тое, што не вылазяць са школы, едуць з вучнямі на экскурсіі. Ї гадзіну выхаваўцы знялі. А яны не могуць не выхоўваць, бо як жа інакш? Ї выхоўваюць як і раней.

**( Працяг на стар. 8 )**

***

нямецкай меншасцю. Лічыў я раней і лічу цяпер, што Беларускі выбарчы камітэт дапусціў вялікую памылку, не прымаючы нашай, гэта значыць Выбарчага камітэта праваслаўных, прапановы аб'яднаць (зблакаваць) выбарчыя спіскі (бюлетэні) у беластоцка-сувальскай выбарчай акрузе. Гэта ж зусім не выключала аб'яднання з іншымі, між іншым, з нямецкай меншасцю на агульнапольскім форуме. Згадваючы пра тое здарэнне, я публічна заявіў, што „пакідаю яго без каментарыяў”. Калі гэтыя словы палічыць „моцным крытыкаваннем”, дык як у такім выпадку назваць тое, што некаторыя кандыдаты Беларускага выбарчага камітэта гаварылі пра мяне, у тым ліку па радыё і тэлебачанні? А з нямецкімі пасламі ў мяне супрацоўніцтва складваецца вельмі добра. З некаторымі з іх я знаёмы яшчэ з ранейшага часу, калі ішло змаганне за афіцыяльнае прызнанне існавання нямецкай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Гэтым стараннем я рашуча дапамагаў у Сейме.

**„Ніва”:** Як цяпер, з некалькімесячнай перспектывы, Вы ацэньваеце выбарчую кампанію ў нашым рэгіёне? Ці бачыце якія-небудзь шанцы на тое, каб у будучыні беларусы пайшлі на выбары адным блокам?

**Я.Чыквін:** Здабыццё Выбарчым камітэтам праваслаўных пасольскага мандата мае для нашай грамадскасці аграмаднае значэнне. Тое, што гэта я асабіста выбраны паслом, — справа другарадная. **Найважнейшае ж тое, што ўпершыню ў гісторыі адроджанай Польскай Дзяржавы мы выступілі ў выбарах як праваслаўныя і выйшлі пераможцамі.** Гэта пацвярджае тое, што мы зусім не бязвольная маса. Тое, што мы патрапілі згуртавацца і выбраць свайго прадстаўніка ў Парламент, беспаваротна замыкае той час, калі ад нашага імя выказваліся дзеячы розных арганізацый. Закончыліся часы прыклейвання нам розных ярлыкоў, як напрыклад, у падатлівасці левым партыям, што з асаблівым смакаваннем на працягу апошніх гадоў распавядаюць розныя мясцовыя палітыканы ды журналісты тутэйшай прэсы. Выбары вельмі яскрава і пераканаўча паказалі, за якія каштоўнасці выказваецца наша грамадскасць. Зразумела, сумнае тое, што паўсталі два выбарчыя камітэты і звярталіся яны да адных і тых самых выбаршчыкаў. Аднак, найважнейшае тое, каб з дапушчаных памылак — маю тут на ўвазе ўсіх, хто актыўна ўдзельнічаў у выбарах — зрабіць належныя вывады. Асабіста я быў раней і цяпер таксама гатовы да супрацоўніцтва з усімі, хто толькі жадае дабра нашай грамадскасці. Як праваслаўны я бачу магчымасць такога супрацоўніцтва на аснове нязменных, універсальных каштоўнасцяў нашай Царквы. Заўсёды падкрэсліваю, што Праваслаўе ўсіх наз яднае, і калі мы часам блудзім, дык усёроўна ў канцы вяртаемся ў Царкву.

Адказваючы на пытанне „ці бачу я якія-небудзь шанцы на тое, каб у будучыні беларусы пайшлі на выбары адным блокам”, хачу сказаць толькі адно: **гэта ёсць наша жыццёвая неабходнасць.** І я веру, што так будзе.

**„Ніва”:** Дзякуем.

Інтэрв'ю ўзяў:

**Мікола Ваўранюк**

**P.S.** Гэтае інтэрв'ю стваралася такім чынам (па просьбе Я. Чыквіна): я склаў пытанні, а пасол Яўген Чыквін перадаў мне праз некалькі дзён адказы. Прыводжу выказванні пасла Я. Чыквіна поўнасцю, але, паколькі не згаджаюся з некаторымі меркаваннямі ці ацэнкай фактаў, хачу выказаць свае адносіны да іх у некалькіх пунктах. Зразумела, не маю манаполіі на праўду.

1. Тое, што пасол Я. Чыквін называе матэрыялам на тэму Закона „Аб адносінах да Польскай аўтакефалічнай праваслаўнай Царквы”, гэта інтэрв'ю Міколы Гайдука з кандыдатам у Сейм ад Выбарчага камітэта праваслаўных Яўгенам Чыквінам, якое мелася друкавацца ў самы разгар выбарчай кампаніі.

У сувязі з тым, што „Ніва” ў леташніх парламенцкіх выбарах паслядоўна падтрымлівала Беларускі выбарчы камітэт, а Выбарчы камітэт праваслаўных быў ягоным канкурэнтам, „Ніва” вырашыла не друкаваць гэта інтэрв'ю перад выбарамі. Затым М. Гайдук забраў гэты матэрыял, каб змясціць яго ў „Tygodniku Podlaskim”.

2. Я надалей падтрымоўваю мае словы пра крытыку саюза Беларускага выбарчага камітэта з Выбарчым камітэтам нямецкай меншасці. Нават нявінныя словы: „пакідаю яго без каментарыяў” набіраюць іншага гучання ў супастаўленні з цэлым выказваннем. Напэўна не былі яны пахвалой таго саюза, ані нават адабрэннем.

3. Не згаджаюся з цверджаннем спадара Чыквіна, што віна ў раз'яднанні Выбарчага камітэта праваслаўных і Беларускага выбарчага камітэта толькі на баку сяброў гэтага апошняга. У пасяджэннях Беларус-кага выбарчага камітэта я ўдзельнічаў і быў сведкам таго, як прадстаўнікі БВК не раз падаваліся на перамовы з ВКП. Нікога затое ад Выбарчага камітэта праваслаўных на пасяджэннях БВК ніколі не бачыў. А можа ініцыятыву яднання прыносілі яны на тыя пасяджэнні, на якіх я адсутнічаў?

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**ЗАПРАШЭННЕ**

26 студзеня 1992 года ( нядзеля ) а 11 гадзіне ў памяшканнні ГП БГКТ у Беластоку адбудзецца фінальны агляд дэкламатарскага конкурсу для моладзі пачатковых школ.

Уступ на мерапрыемства свабодны. Запрашаем!

**ГП БГКТ**




**Шаноўная рэдакцыя!**

Атрымаўшы апошні нумар „Нівы" ад 8 снежня, я звярнула ўвагу перш за ўсё на прысвечаны Максіму Багдановічу артыкул Д. Бічэль-Загнетавай „Ён іграе на бэмолях". Верагодна таму, што на працягу некалькіх гадоў я працавала ў Літаратурным музеі М. Багдановіча ў Мінску.

Скажу па шчырасці, рэдка прыходзіцца сустракаць такую колькасць памылак і недакладнасцей у адным артыкуле. Вось, калі ласка, канкрэтныя прыклады.

Аўтарка піша, што маці паэта Марыя Апанасаўна ў Пецярбурзе вучылася ў „жаночай вучыцельскай гімназіі". Так, вучылася, толькі ў жаночай настаўніцкай школе. Далей, пераблытана дата надрукавання адзінага апавядання Марыі Апанасаўны „Накануне рождества": не 23 снежня, а 29 снежня 1893 года. Супярэчыць ісціне і сцвярджэнне аўтаркі аб тым, быццам бы сёстры Марыі Апанасаўны не мелі доступу да яе дзяцей. Але ж менавіта малодшая яе сястра Аляксандра стала трэцяй, нявенчанай жонкай бацькі паэта Адама Ягоравіча. А здарылася гэта пасля таго, як пасля смерці ў 1899 годзе другой жонкі Адама Ягоравіча А. П. Волжынай Аляксандра прыехала дапамагаць выхоўваць пляменнікаў. Дарэчы, яшчэ ў 1895 годзе Марыя Апанасаўна разам з Вадзімам, Максімам і Лёвам некалькі месяцаў адпачывала ў вёсцы Вяззе ля Асіповічаў у доме сваёй сястры Сцепаніды.

Працытую цяпер невялікі ўрывак з артыкула, які проста набіты жахлівымі памылкамі і недарэчнасцямі. „Дзяўчаты і жанчыны апекаваліся Максімам, замяняючы яму маці, а пасьля адзіную каханую, якой у яго таксама ня было (на мой погляд, гэта нейкая абразлівая бязглуздзіца. — Н. М.). Аня Какуева і яе маленькая пляменьніца Роначка, іменем якой назваў паэт паэму „Вэраніка". Клара Кіціцына, пра якую Максім пакінуў самы інтымны запіс у дзёньніку".

Роначка (зменшанае ад Веранікі) была пляменніцай гімназічнага сябра паэта Д. Дзябольскага і да Ані Какуевай не мела абсалютна ніякага дачынення. Што да Клары Кіціцынай, дык такой асобы ўвогуле не існавала. У 1909 годзе ў Крыму Максім пазнаёміўся з маладой дзяўчынай М. А. Кіц-най (менавіта так напісана ў паэта) і прысвяціў ёй некалькі вершаў. А ў 1915 годзе, таксама на поўдні, ён пазнаёміўся з жанчынай па імені Клава (нажаль, гэта ўсё, што пра яе вядома на сённяшні дзень). Гэтае знаёмства і адлюстравана ў дзённіку паэта.

Чарговая памылка аўтаркі звязана з яе сцвярджэннем, што магіла брата паэта Лёвы знаходзіцца ў Яраслаўлі. Леў Багдановіч трагічна загінуў у Кіеве ў 1918 годзе, калі ў госпіталь, дзе ён ляжаў паранены, уварваліся чырвоныя і пачалі праз вокны выкідаць тых, каго лічылі белымі афіцэрамі. Таму месца пахавання Лёвы засталося невядомым. Ясна толькі, што знаходзіцца яно ў Кіеве, а не ў Яраслаўлі.

Вельмі сумна тое, што артыкул „Ён іграе на бэмолях" трапіў у нумар, які выйшаў напярэдадні дня нараджэння М. Багдановіча. Сорамна за гэткі падарунак паэту, сорамна за ўзровень нашай культуры, калі могуць з'яўляцца такія артыкулы дый сорамна яшчэ за тых людзей, якія не ведаюць трапнай парады Льва Талстога: „Калі можаш не пісаць, не пішы".

**Са шчырай павагай**

**Наталля Мазоўка**

**старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры**

P.S. Шаноўную рэдакцыю віншую з Новым Годам. Жадаю здароўя, шчасця, поспехаў у творчай дзейнасці.

**Н.М.**

## ГАЙНАЎСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

**( Працяг са стар. 7 )**

Моладзь туліцца да мовы продкаў. Калі пачынаю параўноўваць англійскую з беларускай ды гаварыць ім, што яна такая вельмі багатая на прымаўкі, ды на прыгожыя словы, ды інтанацыя такая пявучая (ну ніяк не горшая чым англійская, ці польская), то бачу ў вачах задавальненне, а часамі гонар, бачу тое, чаго спрадвеку не хапала беларусу, каб адчуць сябе роўным сярод роўных. А калі яшчэ зраблю пераклад англійскіх вершаў (можа, і не зусім прафесійна), то тады ўжо поўны давер.

Хачу і вучняў навучыць, каб перакладалі, але ці змагу да канца года? На ўсё часу не хапае. Трэба і новы слоўнік складаць ( у Гайнаўцы знайшла многа добрых слоў, якія заўсёды ўжывалі беларусы), і навуковай працаю заняцца, з Польшчай пазнаёміцца (была толькі ў Беластоку ды ў Варшаве) ды, нарэшце, вывучыць добра польскую мову. Слава Богу, Гайнаўка спрыяе мне, бо працуецца добра. Каб так і далей!

**АЛЕНА ТАБОЛІЧ**




Дарагое Сэрцайка! Я ўжо раней пісала табе пару разоў. А вось цяпер у мяне і сапраўды вялікі клопат.

Пару гадоў таму я выехала на Захад. Справы ў мяне дома вельмі скамплікаваліся. Кінуў мяне муж, бо знайшоў сабе іншую. Пасля з роспачы пайшла я ў пасцель з першым-лепшым і... зацяжарыла. Не хацела мець дзіцяці без бацькі (той хлопец не збіраўся са мной жаніцца) і вырашыла перарваць цяжарнасць. Зрабіла гэта — і ў роспачы выехала.

На жаль, за граніцай справа паўтарылася. Я не брыдкая наогул, і не адзін мужчына хацеў бы лічыць мяне сваёй дзяўчынай. Я была з адным, пасля — з другім і трэцім. І вось менаіта гэты трэці...

З ім я хаджу ўжо амаль цэлы год. Падабаецца мне. Хацела б я выйсці за яго замуж, але ён таксама да жанячкі не кваліцца. А я ізноў... зацяжарыла. Наогул дык гэта мяне нават уцешыла. Пасля таго, як я перарвала першую цяжарнасць, я вельмі баялася, што ўжо мо не змагу мець дзяцей. І таму вырашыла, што ўжо на гэты раз буду радзіць.

Спачатку нават мой хлопец узрадаваўся. Але пажэнімся, сказаў, калі ўжо не будзе ніякага выкідыша,будзе ўпэўненасць, што дзіця даносіш.Я ж чула, што найбольш небяспечныя ў гэтым аспекце наогул першыя месяцы. Дык і спадзявалася, што хутка мы возьмем шлюб (нам па 26 гадоў). Але вось я ўжо ў шостым месяцы, а мой хлопец жаніцца не збіраецца. Цяпер кажа, што пажэнімся тады, калі народзіцца дзіця. Я не разумею, навошта ён так цягне? Мы жывем асобна: ён — у бацькоў (ён мясцовы), якім не падабаецца, што я разведзеная, а я здымаю з сяброўкай пакойчык. Няўжо ён думае, што мне прыемна хадзіць з жыватом, не маючы мужа?

З другога боку, ён не хоча, каб я радзіць выехала дахаты, бо дзіця, сказаў, мусіць мець іхняе грамадзянства.

Дык чаму ж ён не думае пра мяне, калі думае пра дзіця? Дапамажы мне, Сэрцайка, разабрацца ў гэтым, тым больш прашу цябе, бо пішу здалёк.

**Эва**

Эва! Відаць, твой хлопец надта практычны і кахае крышынку „сябе" больш за цябе. Або проста ўмовы вашыя не дазваляюць на супольнае жыццё. Бацькі ж яго да цябе адносяцца не надта добра, ты жывеш з сяброўкай... Нягледзячы на ўсё, дабівайся шлюбу. А будзеш чакаць пакуль народзіцца дзіця — дык скажа ён, што пажэніцеся, калі яму будзе 2 годзікі, пасля — калі пойдзе ў школу і г.д.

Лепш няхай справа высніцца адразу. Ці ўлева, ці — управа. Будзеш ведаць, на чым сядзіш. Можа, варта будзе вярнуцца дахаты.

**СЭРЦАЙКА**

### ПОШТА СЭРЦАЙКА

Сэрцайка просіць прабачэння ў настаўнікаў і вучняў Бельскага беларускага ліцэя, абураных на яго за тое, што яно неасцярожна апублікавала поўны ліст „Цецярука", („Ніва" н-р 2 (1861) за гэты год), які, на нашу думку, усё ж з'яўляецца Вашым вучнем. Ліст гэты, здалося нам, сведчыць не толькі аб тым, што вучні Вашага ліцэя высокаадукаваныя, але што і вельмі дасціпныя. Ну, бо ж тут справа ясная: ніхто б ніколі не напісаў, дзе, у якім месцы ён сустракаецца з дзяўчынай у школе. Навошта?! Каб яго зславілі?! Ліст гэты, зрэшты, знаходзіцца ў рэдакцыі. Мы б такога не прыдумалі, як сугеруеце Вы нам.

Спадзяемся, што прынамсі наш адказ быў у Вас патрактаваны адпаведна і, не давядзі Гасподзь, не на „сур'ёзна"?!

У кожным выпадку, можам запэўніць шаноўных настаўнікаў і вучняў, што ніякай злой волі з нашага боку не было, дык і пагражаць нам, што не будзеце купляць „Ніву", няма за што.

**СЭРЦАЙКА**

## КАЛЯДАВАННЕ Ў НАРВЕ

У Нарве ўжо стала традыцыяй, што пасля Каляд мясцовы гмінны асяродак культуры ладзіць канцэрты каляднікаў. Раней былі гэта конкурсныя агляды калядных груп, з месцамі, узнагародамі для найлепшых. Сёлета арганізатары імпрэзы прынялі форму сустрэчаў з калядкамі. Не вылучаліся лепшыя выканаўцы, а ўсе групы атрымалі такія самыя ўзнагароды — па сто тысяч злотых — і памятныя дыпломы.

Мерапрыемства праводзілася 14 студзеня ў Нараўскім асяродку культуры, дырэктарам якога з'яўляецца Ірэна Шастай. Перад гледачамі запрэзентавалася восем калядных груп, адна дарослая — „Тыневічанкі" з Тыневіч, ды сем школьных: тры з Нарвы, дзве з Крыўца і па адной з Ласінкі, Трасцянкі і Трывежы.

Спяваліся калядкі і праваслаўныя, і каталіцкія, а дзеці з Трывежы прыехалі з „Гэрадамі", традыцыйнай польскай формай калядавання.

Арганізатары паставілі сабе за мэту падтрыманне калядных традыцый рэгіёна, папулярызацыю гэтае спадчыны ды прэзентацыю мастацкіх дасягненняў мясцовых калектываў.

Дырэктар Ірэна Шастай з задавальненнем сцвярджае, што сёлетнія сустрэчы з калядкамі стаялі на высокім узроўні. Моладзь хоча спяваць калядкі, вышукоўвае цікавыя, рэдкія. Апрацоўвае іх, стараецца запрэзентавацца як найлепш. Гэта вельмі добрая з'ява — паказвае яна, што жыве ў народзе традыцыя. Будуць жыць у будучыні і нараўскія сустрэчы з калядкамі.

**М.В.**



**У беластоцкім ЗАГСе**

## НАЙБОЛЬШ АННАЎ...

У мінулым годзе ў Беластоку шчаслівыя бацькі найчасцей давалі сваім нованароджаным дзецям наступныя імёны: Анна, Пауліна і Кацярына, а таксама Агнешка, Юстына, Ізабела і Сільвія (дзяўчынкам); Лукаш, Мацей, Давід, Адам і Рафал (хлопчыкам). У мінулым годзе ў сталіцы Беластоцкага ваяводства нарадзілася каля шасці тысяч дзяцей, дзяўчынак было крыху больш, чым хлопцаў.

Варта дадаць, што мода на Анну была таксама ў папярэднія гады, між іншым, у 1985 і 1990 гадах, на Кацярыну — у 1980 і 1985 гадах, на Агнешку — у 1980 годзе і Юстыну — у 1990 годзе.

На працягу апошніх гадоў найбольш папулярнымі былі Магдалена і Рафал.

(яц)

Зорка
старонка для дзяцей



*Прывітанне ад супрацоўнікаў „Вясёлкі" – паэта Міколы Чарняўскага, галоўнага рэдактара Уладзіслава Лінскага і паэта Міколы Маляўкі.*

**********************************************

**ЯКАБ І ВІЛЬГЕЛЬМ ГРЫМ**




Жыла-была на свеце старая каза. Было ў яе сямёра маленькіх казлянятак, якіх яна любіла, як можа любіць толькі маці.

Аднойчы сабралася каза ў лес па траву. Паклікала яна да сябе ўсіх сямёра казлянят і кажа:

„Мілыя мае дзеткі, я пайду у лес, а вы сцеражыцеся ваўка, бо калі ён забярэцца ў хату, то з'есць вас з рожкамі і ножкамі. Злыдзень часта прытвараецца, але вы адразу пазнаеце яго па грубым голасе і чорных лапах".

Казляняты адказваюць:

„Мілая мамачка, мы будзем асцярожнымі. Ідзі, не хвалюйся.

Замэкала каза ды спакойна пусцілася ў дарогу.

Прайшло колькі часу, стукаецца нехта ў дзверы і гукае:

*Дзеткі мілыя, адчыніце,*
*Ваша маці прыйшла,*
*Пачастункі прынясла.*

Па грубым голасе казлянятки пазналі ваўка.

— Не адчынім, — закрычалі яны. — У нашай мамы голас тонкі і ласкавы, а твой голас тоўсты, ты воўк.

Пайшоў воўк да крамніка купіў у яго вялікі кавалак крэйды. З'еў яе і зрабіўся яго голас тонкі. Потым вярнуўся, пастукаў ў дзверы і крычыць:

*Дзеткі мілыя, адчыніце,*
*Ваша маці прыйшла,*
*Пачастункі прынясла.*

Але воўк паклаў свае чорныя лапы на вакно. Казляняты ўбачылі іх і закрычалі:

— Не адчынім! У нашай мамы ногі не такія чорныя, як у цябе. Ты — воўк!

Пабег воўк да пекара і кажа: „Пабіў я нагу. Памаж ты мне яе цестам".

Памазаў яму пекар лапы.

Кінуўся воўк да млынара і просіць:

— Пасып мне лапы белай мукой!

Млынар падумаў: „Абмануць некага хоча воўк", — і не рашаўся гэта зрабіць. Але воўк кажа:

— Не згодзішся, з'ем цябе!

Напалохаўся млынар і пабяліў воўчыя лапы мукою. Бываюць жа такія людзі.

Вось пайшоў злыдзень у трэці раз да дзвярэй. Пастукаў і кажа:

*Адчыніце мне, дзеткі,*
*Ваша мамка прыйшла,*
*Нешта з лесу для вас прынясла.*

Казлянятки закрычалі:

— Пакажы спярша свае лапы, паглядзім, ці гэта наша любая мамачка.

Паклаў воўк лапы на вакно. Пабачылі казляняты, што яны белыя, паверылі таму, што казаў воўк, ды адчынілі дзверы.

Ускоквае ў хату воўк. Спалохаліся казлянятки і, давай хавацца. Адно скочыла пад стол, другое ў ложак, трэцяе — у печ, чацвёртае — у варыўню, пятае — у шафу, шостае — у начоўкі, а сёмае — у насценны гадзіннік.

Але воўк пазнаходзіў іх і, доўга не думаючы, паглытаў адно за другім. Не знайшоў толькі самага меншага, што сядзеў у гадзінніку.

Наеўся воўк і пабег прэч. Зваліўся пад дрэва ў зялёную траву дый заснуў.

У хуткім часе вярнулася старая каза дадому. Вой, што яна бачыць! Дзверы насцеж, стол , крэслы, лаўкі дагары, начоўкі разбітыя, коўдры і падушкі параскіданыя. Стала каза дзяцей шукаць, але нікога не можа знайсці. Клікала яна іх і па імёнах, але ніхто не адгукаўся.

Нарэшце падыйшла яна да таго месца, дзе было малодшае казляня, і пачула тоненькі голас:

— Любая мамачка, я сяджу ў гадзінніку.

Выцягнула яна яго, і распавяло казляня пра тое, як прыходзіў воўк і паеў усіх казлянятак.

Можаце сабе ўявіць, як плакала каза па сваіх бедных дзецях!

Нарэшце выйшла яна, бядуючы, з хаты, а казлянятка пабегла за ёю.

Прыйшла каза на луг, а там воўк пад дрэвам ляжыць ды так храпе, што аж голле трасецца. Агледзела яго каза з усіх бакоў і заўважыла, што ў тоўстым ваўчыным жываце нешта варушыцца і балохтаецца.

— Божачкі, — падумала яна, — няўжо мае дзеці, якімі павячэраў воўк, — яшчэ жывыя?

Прынесла казлянятка з дому нажніцы, голку і ніткі. Разрэзала каза страшыдлу пуза. Правяла нажніцамі раз, — высунула галаву казляня. Стала рэзаць далей — і павыскоквалі адзін за другім усе казлянятки жывыя і здаровыя, бо прагнае страшыдла

( Працяг на стар. 10 )

**ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ**

**Мікола Маляўка**

**ПУСТЫЯ КАРМУШКІ**

У школьным садзе дзеці
Павесілі кармушкі,
Каб у мароз і вецер
Не галадалі птушкі.

Нацешыліся ўволю
Каля кармушак-хатак,
Не крышаць хлеба болей,
Не сыплюць і зярнятак.

Відаць, заняты вельмі,
Забыліся пра птушак,
І замяла завея
Сцяжынкі да кармушак.

Сняжынкі сыпле неба
На дошкі — столік гладкі,
Ды снег не крошкі хлеба,
Не смачныя зярняткі.

І аблятаюць птушкі
І сад, і хаткі тыя:
Не радуюць кармушкі,
Калі яны — пустыя.



**Мікола Чарняўскі**

**ПАЛАСАТКІ**

Вепручыха
Для парасятак
Панашыла
Кашуль-паласатак.
Апранула дзяцей
У абноўкі.
Раздала заадно ім
Насоўкі:
Як на бульбу
Хадзілі ўначы, —
Застудзілі
Малыя
Лычы.

— Не дурэйце,
Не свавольце, парасяткі,
Беражыце і шануйце
Паласаткі.
Пачасаць захочацца бачок —
Не парвіце
Аб вострыя сучок.
Бо ў мяне турбот,
Як бачыце,
Па шыю —
Не пашыю больш абновак,
Не пашыю...

Парасяткі сваволяць,
Гуляюць,
А кашулькі —
Ліняюць,
Ліняюць.
Хіб шчацее,
Знікаюць палосы:
Ці дажджы іх змываюць,
Ці росы?

Падраслі неўпрыкмет
Парасяткі —
Дзе ж падзеліся іх
Паласаткі?



**Віктар Гардзей**

## ЗАЙКАВА БАЛАЛАЙКА

**Казка**

Спіць з адкрытымі вачыма
Зайка леты ўсе і зімы.
Ці дажджы,
Ці снег у пушчы,
Зайка вочкі не заплюшчыць.

Гэта ён цяпер трывожна
Спіць і днём і ночкай кожнай,
А раней жа даўгавухі
Па лясах гуляў без скрухі —
Меў старэйшага ён брата,
Меў і радасці багата.

Сёння ж зайка не ў гуморы,
Бо паехаў брат у горад.
Абяцаў малому зайку
Ён купіць там балалайку:
„Выйдзеш, брацік, на палянку
І зайграеш польку „Янку" —
Пабяруцца лiскі ў бокі,
Пусцяцца мядзведзі ў скокі!"
Вось якую цуда-грайку
Брат прывезці меўся зайку.

За вясной вясна мінае,
Зайка радасці не знае:
„Нешта ж доўга брат не едзе?
Заблудзіўся, мусіць, недзе?
Мо дзе трапіў пад машыну?
Мо ад стрэлу дзе загінуў?"
Зайку вельмі дрэнна спіцца,
Балалайка часта сніцца.

Сумна зайка кружыць гаем,
На дарогу выбягае.
Тут, на полі і начуе,
Кожны гук далёка чуе.
На дарозе пуста, ціха.
Абміне хай брата ліха!
У лагчынцы прыдарожнай
Зайка спіць цяпер трывожна.
Спіць з адкрытымі вачыма:
„Можа, брат праедзе міма?"






— Ні адной памылкі, — сказала настаўніца, прагледзеўшы дамашнюю работу вучня. — Скажы, Вовачка, толькі сумленна, твайму бацьку хто-небудзь дапамагаў?..

### ЧАМУ СПАЗНІЎСЯ

Марыйка:
— Васілёк, чаму ты спазніўся на заняткі?!
— Таму, што заняткі пачаліся да таго, як я прыйшоў!

### НАЙЛЕПШАЯ ПРАЦА

— Якую дамашнюю працу ты найбольш любіш?
— Найбольш люблю варыць.
— Чаму?
— Бо мама забараняе мне гэтым займацца!

* * *

Калі Вовачку спыталі, ці можа ён успомніць 5 самых шчаслівых гадоў свайго жыцця, ён адказаў:
— Вядома, калі я вучыўся ў першым класе.

**(В.Б.)**




**Добры дзень, паважаная „Зорка"!**

Піша табе вучаніца 6 „А" класа сярэдняй школы н-р 2 з Мікашэвіч **Наталля Старажэвіч**. Мне 11 гадоў. Вучуся добра. Люблю слухаць музыку, чытаць кнігі, мой любімы паэт — Якуб Колас. Мне падабаецца ўрывак з паэмы „Новая зямля":

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз, утомлены дарогай,*
*К табе я ў думках залятаю,*
*І там душою спачываю.*

Калі я чытаю яго, то думаю, пра свой пасёлак. Хоць ён і невялікі, людзі тут працавітыя і добрыя. Большасць з іх працуе на вялікім заводзе, дзе дабываюць граніт, які вельмі патрэбны краіне.

Мне вельмі хочацца перапісвацца з польскімі рабятамі, і я спадзяюся, што „Зорка" мне дапаможа знайсці сябра.

Мой адрас:
Беларусь, 225610, Брэсцкая вобласць, Лунінецкі раён, п. Мікашэвічы, вул, Першамайская, д. 73, кв. 78, **Старажэвіч Наталля.**

* * *

Добры дзень, „Зорка"!
З прывітаннем да цябе вучаніца 6 „А" класа сярэдняй школы н-р 2 з Мікашэвіч, Людміла Шэўчык. Мне будзе 12 год.
Я люблю маляваць. Была ў школе алімпіяда па маляванню, я ўдзельнічала ў гэтым мерапрыемстве, і заняла трэцяе месца. Атрымала дыплом. Вельмі люблю Галіну Паўлаўну — яна ў нас вядзе маляванне. Яшчэ я хаджу на гуртох „Крынічка", мы там вучымся сачыняць вершы. Гурток гэты вядзе Алена Міхайлаўна.
Мой адрас:
Беларусь, 225610, Брэсцкая вобласць, г.п. Мікашэвічы, Лунінецкі раён, вул. Першамайская, д. 96, кв. 35.

**Людміла Шэўчык**

* * *

238100, г. Черняховск, Калининградская область, ул. 2-ой Дач. п., д. 14 а, кв. 93, **Наташа Морозова** (12 гадоў, любіць спяваць, танцаваць, музыку, збірае паштоўкі, каляндарыкі, наклейкі, маркі, укладкі, гадуе сабачку).

## ВОЎК І СЯМЁРА КАЗЛЯНЯТ

**( Працяг са стар. 9 )**

глытала іх цалкам. Колькі было радасці! Абдымалі казляняткі сваю маці ды скакалі, як на вяселлі.

Потым старая каза кажа:

— Пакуль гэтая пачвара спіць, ідзіце назбірайце камянёў, запіхнем іх у воўчы жывот".

Сямёра казлянят хуценька нацягалі камянёў і паклалі іх у воўчы жывот. А каза так спрытна зашыла каменне, што воўк нічога не адчуў і нават не варухнуўся.

Нарэшце прачнуўся воўк, падняўся на ногі. Узяла яго смага з-за камення ў жываце і захацелася яму напіцца з крыніцы.

Толькі ён ступіў, а каменне як застукае, як загрыміць. Воўк як закрычыць:

*Што гэта грукае-стукае ў маім жываце?*

*Я з'еў казлянят шасцёра,*
*Чаму ж звіняць каменні горы?*

Даклыпаў воўк да крыніцы, нагнуўся над вадой, каб папіць, а цяжкае каменне пацягнула яго на дно. Заенчыў воўк і патануў.

Убачылі гэта сямёра казлянят, падбеглі і закрычалі:

– Ваўка няма, ваўка няма! — і ад радасці сталі танчыць разам з маці вакол крыніцы.

**Пераклад**
**Раіса Крывальцэвіч**




**Дарагая „Зорка"!**

Пішуць вам вучні шостага класа з Пачатковай школы ў Нарве. Дзеці ў нашай школе не толькі вучацца, але і адпачываюць. Прымаем удзел у розных мерапрыемствах, якія арганізуе нам наша настаўніца беларускай мовы.

Мы сёння хочам табе расказаць аб нашай пабыўцы ў рэдакцыі „Нівы", якую наладзілі мы 5 снежня. Заехала нас усяго 31 асоб — 29 вучняў і дзве настаўніцы: **Н. Абрамюк і А. Пляскавіч**. Прывітала нас „Зорка" — **Міра Лукша**. Мы пабачылі, як друкуецца наш часопіс на сучасных друкарках і як робяць карэктуру. Дзякуючы мілым машыністкам — **Галіне Раманюк** і пані **Яўгеніі Палоцкай**, якая заступала ў той дзень **Марыю Федарук**, мы мелі магчымасць правіць памылкі на камп'ютарах. Мы зайшлі да карэктара **Валянціны Жэшка**, якая працуе тут ад самага пачатку існавання „Нівы".

Наступіў час развітання. Мы атрымалі па два нумары „Часопіса" ад рэдактара Юркі Каліны і кніжкі ад Міры Лукшы. Вельмі задаволеныя паехалі дамоў.

**Вучні шостага класа**

### СНЯЖЫНКА

Выбегла Таццянка з дому. Снег мяккі сыпле, усцілае зямлю. Выцягнула ручкі ў сініх рукавічках. На іх зоркі-сняжынкі — мама вышыла. Але вось жа і яшчэ сняжынка прыбавілася. Сняжынка сапраўдная. Яна маленькая, куды меншая за вышываную. Толькі што гэта? Яна яшчэ меншая робіцца. Глядзіць на рукавічку Таццянка, а сняжынка ўсё меншае і меншае. Раптам зусім прапала. Дзе ж яна падзелася? Таццянка перавярнула руку — і тут няма!

Тым часам на далоньку апусцілася яшчэ адна сняжынка. Вялікая, пушыстая.

„Ну, цяпер я разумнейшая буду", — падумала Таццянка. Сціснула яна сняжынку ў рукавічцы і дадому хутчэй набегла — маме паказаць. Вельмі ўжо гэтая сняжынка да мамінай вышыванай падобная.

— Мама, зірні, што я прынесла! — і выпрастала руку. А на далоні зноў нічога няма! Заплакала Таццянка ад крыўды.

— І куды яна падзеялася? — плача Таццянка.

— Хто? — пытаецца мама.

— Сняжынка! Я табе яе ў рукавічцы прынесці хацела. Несла, несла і згубіла па дарозе!

— Не плач! Не згубіла ты яе... — і мама расказала Таццянцы, што здарылася са сняжынкай.

А вы здагадаліся, дзе падзелася сняжынка?

**Таццяна Бушко**




| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| A | | | | | |
| B | | | | | |
| C | | | | | |
| D | | | | | |
| E | | | | | |
| F | | | | | |

Пашукай тры суседнія палі, на якіх разам 12 лісточкаў.

# ВЕРСІІ ✺ КУР'ЁЗЫ ✺ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ -ЗДРАДНІКІ

Вечны спадарожнік чалавека — здрада — праследуе яго ўсё жыццё і ў самых розных сферах: ад сям'і да дзяржавы. Здрада нарадзілася не сёння і не ўчора, а разам з паяўленнем на Зямлі чалавека, ужо чым-чым, а зменлівасцю людскі род не здзівіць, нават вучні пакідалі Ісуса Хрыста не адзін раз, а апостал Пятро адракаўся ад яго тры разы...

Расказ будзе не аб здрадзе сяброў, не аб палітычных метамарфозах высокіх грамадскіх дзеячоў, а аб носьбітах дзяржаўных сакрэтаў, якія здрадзілі сваёй айчыне, аб здрадніках-шпіёнах.

Кастрычніцкая рэвалюцыя раскалола свет на два непрымірымыя лагеры. Узнікла Краіна Саветаў, а з ёй новая палітычная сістэма. Сталін разам з Камінтэрнам лічыў, што замежныя камуністы павінны дапамагаць савецкай разведцы.

У дваццатыя гады сярод савецкіх людзей пачало нараджацца расчараванне разам з правалам велічных планаў у галіне развіцця гаспадаркі, разам з узмацненнем дыктатуры і рэпрэсій. Ужо тады памочнік Сталіна — Бажанаў уцёк за мяжу і пачаў дэмаскаваць савецкі рэжым. У разгар рэпрэсій у трыццатых гадах, на Захадзе асталіся многія дыпламаты і чэкісты, у тым ліку рэзідэнт ОГПУ у Барселоне — генерал Аляксандр Арлоў. Ён напісаў да Берыя пісьмо аб тым, што калі будзе рэпрэсіраваны хто-небудзь з яго радні ў СССР, то ён адпомсціць такім чынам, што выявіць савецкую замежную агентуру. Пагроза падзейнічала, Арлова не чапалі. Аж да яго смерці. Калі памёр „бацька ўсіх народаў", толькі тады Арлоў прыняў запрашэнне сенатарскай камісіі амерыканскага кангрэса і шырока паінфармаваў аб савецкай паліцыы, аб паводзінах Праўадыра і яго паплечнікаў. У свет выйшла кніга яго ўспамінаў „Тайная гісторыя сталінскіх злачынстваў".

У верасні 1945 года здрадзіў сваёй айчыне шыфравальшчык ваеннай разведкі ў пасольстве ў Атаве (Канада) — Ігар Гузенка. Яго ўцёкі мелі драматычны характар. Калі ён звярнуўся ў канадскае міністэрства справядлівасці, яму спачатку не паверылі і папрасілі прыйсці на другі дзень. Давялося разам з жонкай і дзіцём хавацца ў канадскіх суседзяў, а ў той час работнікі НКВД ужо пачалі пошукі яго.

Гузенка выявіў сетку савецкай агентуры, якая рабіла ўсё, каб раздабыць атамныя сакрэты, перадаў шыфры, што дазволіла арыштаваць і аддаць пад суд амерыканскіх і англійскіх грамадзян, якія працавалі для савецкай разведкі.

Многа шуму нарабілі ўцёкі ў 1954 годзе на Захад капітана КДБ Мікалая Хахлова, якому даручылі забіць аднаго з лідэраў антысавецкага Народна-трудавога саюза Георгія Акаловіча, эмігранта, які жыў у ФРГ, а замест гэтага прыйшоў да яго ў кватэру і прызнаўся, што яго якраз паслалі ліквідаваць гаспадара. Як доказ паказаў партсігар, з якога мігам склаў бясшумны пісталет. Да яго зрабілі разрыўныя пулі ды яшчэ і з атрутай. Але па чарзе.

Франкфурт, 18 лютага 1954 года. Капітан М. Хахлоў падышоў да дому, у якім жыў Акаловіч, і прыціснуў кнопку званка.

— Георгій Сергеевіч? — спытаў Хахлоў, калі мужчына прыадчыніў дзверы.

— Так, гэта я, — адказаў Акаловіч, неспакойна прыглядаючыся незнаёмаму.

— Можна ўвайсці?

— Але я вас не ведаю і...

Не пазволіўшы Акаловічу дакончыць, Хахлоў запэўніў:

— Аднак я вас добра ведаю. Зараз усё раскажу. Вы адзін дома?

— Ну што ж, праходзьце. Я адзін.

Хахлоў увайшоў, прысеў ля стала і сказаў:

— Георгій, я прыехаў да Вас з Масквы. Мне загадана Вас ліквідаваць. Я ўзначальваю аперацыйную спецгрупу. Са мной ёсць двух агентаў: Фелікс Куковіч і Франц Вебер.

Спалоханы пачутым Акаловіч злёгку кіўнуў галавою, быццам згаджаўся на ўсё. Здалося яму, што вось і надыйшоў апошні міг яго жыцця.

Не адразу ён зразумеў сэнс слоў, што да яго даходзілі. Не ўсё ўсведаміў, калі Хахлоў яму паведаміў:

— Аднак, я не дазволю на тое, каб з вамі магло штосьці здарыцца.

Так ужо выйшла. Гэтым разам Хахлоў не мог забіць зусім безабароннага чалавека. І так ён пайшоў на супрацоўніцтва з амерыканскай разведкай. Выявіў свой тайнік у лесе, а ў ім незвычайны пісталет, які можна было замяніць на партсігар, зараджаны ядам боепрыпасы. Сканструявалі яго ў спецыяльнай маскоўскай лабараторыі „Камера". У ёй былі распрацаваны найбольш ядавітыя атруты. Складаліся яны з прэпаратаў, якіх не ведалі лекары. Усё гэта дзеля таго, каб яны не маглі ўстанавіць прычыну хуткай смерці.

Пасля дэзерцірства Хахлова, СССР даў у прэсе традыцыйнае ў такіх выпадках выясненне: „Хахлоў дзейнічаў пад кірункам ЦРУ і ўсё, што ён выявіў, гэта чысты фальш". У адказ на гэта капітан КДБ пачаў яўна дэмаскаваць палітыку Савецкага Саюза ў Еўропе. Тады КДБ, каб скампраметаваць Хахлова, прадставіў яго і Акаловіча як ваенных злачынцаў, якія знайшлі сабе апеку пад крылом ЦРУ. Паколькі савецкі разведчык у далейшым клеймаваў СССР і знаёміў з тайнымі дзеяннямі КДБ, кіраўнікі сакрэтнай службы пастанавілі яго знішчыць фізічна за любую цану. Ці ім гэта ўдалося? Каб даведацца, чытайце працяг, які змесціць „Ніва" праз тыдзень.

Апрацаваў

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**




Сніцца мне, што я гляджу тэлевізар. І быццам на экране я бачу, як разбіваецца машына. Тады гляджу: гэта ж не фільм, гэта ж у сапраўднасці стаіць перада мной аўтамабіль, які пацярпеў катастрофу. Усе ў ім загінулі: бацька за рулём сядзіць, маці — спераду, зусім як жывая, быццам спіць, але я ведаю, што яна мёртвая, а ў яе на руках — сын гадоў 12-ці. Раптам я бачу, што сын, хаця таксама быў нежывы, адчыняе вочы. Мне стала страшна, я адразу падумала аб небяспецы. І так хадзіла цэлы дзень як непрытомная. Баялася, што зараз пакаўзнуся і зламаю нагу (было вельмі слізка). Не хацела садзіцца ў аўтобус, бо ўсё думала, што можа быць катастрофа.

А праз два дні мая дачка ехала з мужам на машыне. Было суха, але раптам пайшоў снег, і на шашы стала ехаць небяспечна. Машына, што ехала перад імі, — грузавік, нагружаны дрэвам, — раптам спынілася, а яны, не могучы ўжо затрымаць сваю машыну, урэзаліся ў яго. Машына, як кажуць, „удрэбязгі", але ім нічога не сталася. Вось табе і сон.

**Аліна**

Аліна! Сон твой спраўдзіўся. Прадвяшчаў ён вялікую небяспеку, (мярцвяк ажыў, катастрофа), але не смерць.

**АСТРОН**



На нашых дарогах

## РАЗБІТЫЯ ПАЧАКАЛЬНІ

Нялёгка ды неабходна пісаць пра разбураныя пачакальні на аўтобусных прыпынках ПКС. Як нас бачаць, так нас пішуць! Ужо больш за паўгода ніхто не рамантуе трохсценныя пачакальні ў **Грабоўцы**, што на ўскраіне Беластока, у **Вілах** на скрыжаванні дарог у Беласток, Міхалова і у Гарадок ды ў **Юшкавым Грудзе**, што на шляху Беласток—Ялоўка.

У Грабоўцы ўшчэнт разбіты дашок, а ў Валілах і Юшкавым Грудзе — па адной сцяне. У разбураных пачакальнях для асоб, якія чакаюць аўтобуса, няма як схавацца летам ад дажджу, а ўзімку ад снегу і халоднага ветру ў час завеі.

**ЯСЕНЬ**




### САЛАТА З БУЛЬБЫ

На 5 звараных у мундзірах бульбін, абабраных і нарэзаных даволі вялікімі кавалкамі, трэба ўзяць 3—4 крутыя яйкі, нарэзаныя дробнымі кавалачкамі, 1 лыжку сцертага на тарцы сырога сэлера, 1 лыжку воцату, 2—3 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі ці кропу, 1 дробна нарэзаную цыбуліну, 1 лыжачку солі, крыху змеленага перцу і маянэз.

1. Нарэзаную бульбу і яйкі палажыць у салатніцу, перамяшаць з зелянінай.

2. 2—3 лыжкі гатаванай вады перамяшаць з воцатам, сэлерам, цыбуляй, соллю і перцам у малой каструльцы, варыць на малым агні 3 мінуты, а пасля заліць гэтым гародніну ў салатніцы і добра перамяшаць. Паставіць салату ў халадзільнік.

3. Выняўшы халодную салату з халадзільніка, дадаць да яе па смаку маянэз.

Падаваць салату з хлебам ці булкай.

Прапорцыя для 4 асоб.

### САЛАТА З КІСЛАЙ КАПУСТЫ

На 2 шклянкі кіслай капусты трэба ўзяць паўшклянкі сцертага на тарцы сэлера і 1 шклянку сцертай морквы, 2 чырвоныя яблыкі са скуркай, даволі дробна нарэзаныя, 1/3 шклянкі цукру, 1/4 шклянкі алею, 1/4 шклянкі пяціпрацэнтнага воцату.

1. Капусту спаласнуць, дробна пасячы, перамяшаць з сэлерамі, морквай і яблыкамі.

2. Цукар спалучыць з воцатам, дадаць алей, усё перамяшаць і заліць гэтым салату, старанна перамешваючы. Уставіць у халадзільнік на дзве гадзіны.

3. Калі соку будзе занадта многа, зліць яго.

Вельмі смакуе гэта салата з бульбянымі аладкамі, запяканкамі з фасолі і мяснымі стравамі.

Прапорцыя для 4—6 асоб.

### САЛАТА ЛІТОЎСКАЯ

На 1 кг буракоў трэба ўзяць 3/4 шклянкі фасолі, 3—4 сярэднія бульбіны, 6—8 кіслых агуркоў, соль, 1 шклянку смятаны, зялёную пятрушку.

1. Фасолю перабраць, спаласнуць, заліць вадой на 15 мінут, адцадзіць, заліць чыстай вадой і пакінуць фасолю ў ёй на нач. На наступны дзень зварыць яе ў гэтай жа вадзе і адцадзіць на сіце.

2. Буракі і бульбу зварыць асобна. Адцадзіць.

3. Агуркі дробна нарэзаць. Пятрушку пасячы.

4. Астуджаныя буракі і бульбу абабраць і даволі дробна нарэзаць. Усё палажыць у вялікую міску, дадаць фасолю і агуркі, заправіць соллю, перамяшаць і паставіць у халадзільнік на 2—3 гадзіны.

5. На паўгадзіны перад падачай заліць гародніну смятанай і перамяшаць. Пасыпаць зелянінай.

Падаваць з хлебам ці грэнкамі, памазанымі маслам.

Прапорцыя для 5—6 асоб.

**ГАСПАДЫНЯ**

*(Паводле кнігі Кацярыны Паспяшынскай „Якія часы, такая кухня"*

### ПА-ФРАНЦУЗСКУ

Быццам бы звычайная шчыліна, але даводзіць яна цябе да шаленства. Нельга да яе паставіцца абыякава. Усоўваеш у шчыліну палец. Змясціўся амаль цэлы, хаця шчыліна зусім сухая. У цяпле яна расшыраецца. Але вось, цяпер нельга выцягнуць палец назад... Трэба паслініць. Пачынаеш вадзіць языком па закавулках шчыліны. Яна вільгатнее. Пачынаеш калупаць пальцам управа, улева... Урэшце вылез. Глядзіш на яго з раздражненнем. Каля ногця відаць трохі крыві. Гэта паскарае прыняццё рашэння.

Панель не павінна рассыхацца! Заўтра пазвоніш столяру, які мантаваў гэту панель, няхай ён памяняе дошкі і выправіць сваю халтуру.

### ПАХОДЖАННЕ

Год 2000. У рубрыцы „сацыяльнае паходжанне" ў персанальнай анкеце пішам: „Дзед (рэгіян. — *жабрак*) з дзеда-прадзеда".

**Даслаў А. Гаўрылюк**




*Мал. Д. Ягухоўскага („КАРУЗЕЛЯ")*

**Гумар з барадою**

### ЯК ХТО КАХАЕ

Кухарка — горача.
Цукернік — соладка.
Урадовец — афіцыйна.
Гімназіст — класічна.
Доктар — смяротна.
Бамбардзір — агніста.
Кааператар — супольна.
Журналіст — сенсацыйна.
Тэолаг — набожна.
Паэт — фантастычна.
Дурань — верна.

ЗІЗ („Маланка", 1926 г.)

### БЯДА

Білі Бяду канчукамі:
Не спі, Бяда, з дзецюкамі!
Білі бяду сямі лет,
Пайшла Бяда па ўвесь свет.
Дзе ж ты, Бяда, радзілася?
Дзе ж ты, Бяда, хрысцілася?
Я ў Менску радзілася,
У Барысаве хрысцілася,
А ў Вільні ўзрасла,
У Польшчу замуж я пайшла!

Г. Леўчык („Маланка", 1927 г.)

*(Са зборніка „Гэй, смалі, страляй, маланка!")*

# КАСЯК НА „П"

**Управа**: 1/ можна ёй глядзець у вочы, а можна яе рэзаць проста ў вочы, 2/ удар міма цэлі, хіба, 3/ арэ, 4/ мокрым не стрэліш, 6/ невершаваная мова, 8/ служыць узорам, а ў матэматыцы яго рашаецца, 10/ форма шапкі родам з войска, 13/ яшчэ не кабан, часта мурзаты, 15/ металічны прут, 17/ прастора пад зямлёй, грот, нара, 19/ дадатак да маладой, 20/ чарцёж, праграма, праект, парадак, кампазіцыя, маштаб.

**Улева**: 1/ можа быць на дрэве, можа быць у матцы, 2/ група аднаго віду і агульнага паходжання людзей, жывёл, раслін, 3/ свет паэзіі, 5/ прыход, 7/ паравоз з вагонамі, 9/ адно з асноўных паняццяў матэматыкі, месца якое не мае вымярэнняў, 11/ цягне вагоны, 12/ піццё для жывёлы або непрыемны на смак напітак, 14/ большы за плот або месца адначынку + савецкі самалёт, 16/ у чужое ... не суй носа, 18/ лепіць печы, 21/ галава ў Ватыкане.

**„ЯДАНЬ"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 50. Управа**: жаванне, жыхарка, жарон, жаніх. **Улева**: жакан, жывапіс, жаданне, жонка.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Лукаш Пацэвіч з Беластока і Ірэна Лукша з Семяноўкі.



### З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Паліцыянт пасля дзяжурства запісаў у сваім блакноце: „Мы злавілі трох злачынцаў, якія пабілі да непрытомнасці маладога чалавека. Той, аднак, хутка ўцёк з месца злачынства, не пакідаючы слядоў гэтага ганебнага ліхадзейства".

*

Прыйшлі суседзі да Сцёпкі на вячоркі і пасля выпіўкі сталі расказваць анекдоты. Адзін з іх пытаецца: „Хто гэта такі? Раніцай ходзіць на двух нагах, у абед на трох, а вечарам на чатырох".

— Гэта наш сусед Міраслаў, — крыкнуў малы Янка, які прыслухоўваўся да размовы старэйшых. — Зранку ён ідзе да піўной як трэба. У абед абапіраецца на палку, каб не ўпасці, а ўжо вечарам паўзе на чатырох.

*

— Пра што ты пытаў маю жонку?

— Я яе пытаў, якое надвор'е будзе вечарам.

— А навошта гэта табе ведаць?

— Часам трэба паглядзець, што ў вёсцы дзеецца, хто куды ідзе, асабліва жанчыны.

**АЎРОРА**

### ІМПАРТГУМАР

Спаткаліся ў горадзе два аднавяскоўцы. Першы і пытае другога, які толькі што прыехаў з вёскі:

— Што новага дома чуваць?

— Ат, нічога, — адказаў той. — Толькі вось на гэтым тыдні ў Ганулі самагонка моцная ўдалася.

* * *

Хтосьці ажаніўся на вельмі танклявай жанчыне. Калі яго спыталі, чаму ён так зрабіў, ён адказаў:

— Я выбраў найменшае ліха.

* * *

Раніцай англічанін аджымаецца на беразе Тэмзы.

— Прабачце, сэр, — кажа яму паліцэйскі. — Магчыма, гэта не мая справа, але мне здаецца, што ваша дама даўно пайшла.

* * *

— Як жыццё?

— Як у аўтобусе: адны сядзяць, другія калоцяцца.

* * *

— Бюракрат, да якога ўжо каторы раз прыйшла на прыём старэнькая бабуля, паспачуваў:

— Няўжо ў вас няма каму займацца гэтай справай? Гэта ж толькі падумаць, такую старую прымушаюць столькі хадзіць...

* * *

Снедаючы, пан Храноўскі ўбачыў у ранішняй газеце свой некралог. Са злосцю звоніць сябру:

— Прачытаў ты сёння мой некралог?

— Так. А адкуль ты звоніш?

* * *

Белы колер азначае радасць. Таму шлюбны ўбор маладой заўсёды белы, а маладога чорны.

Падборку зрабіў
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

**Niva**

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Янка Целушэцкі (карэктар), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..
Cena prenumeraty miesięcznej:
- luty - 12 000 zł.
- marzec - 15 000 zł.
- kwiecień - 12 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.